ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№4 (85) красавік 2018 год
CATHOLICNEWS.BY

# Айцец Часлаў Курэчка ў Пагошчы: "Калі ваша вера моцная, Бог робіць для вас цуды!"

Стар. 7

## Крыж вярнуўся ў касцёл

30 сакавіка 2018 года запомніцца вернікам Варапаеўскай парафіі не толькі як Вялікая Пятніца Мукі Пана, але і як дзень, калі быў асвечаны і ўсталяваны на касцёле крыж.



Стар. 4

## Пытанне святару: споведзь і забытыя грахі

Старонка 13

## Возможно ли, что Бог простил Иуду?

Старонка 13

## Пытанне святару: падзел каталікаў і праваслаўных

Старонка 11

## Як Касцёл ставіцца да ведычных ведаў?

Старонка 11

## Легіянеры Глыбоцкай курыі аднавілі свае абяцанні



Стар. 3



# Апублікавана адгартацыя Папы Францішка “Радуйцеся і весяліцеся”

**Мы становімся святымі, калі жывём евангельскімі блаславеннямі – гэта галоўны шлях, таму што ён вядзе супраць плыні гэтага свету, падкрэсліў Папа Францішак у сваёй Апостальскай адгартацыі “Gaudete et exsultate” (“Радуйцеся і весяліцеся”), прысвечанай пакліканню да святасці ў сучасным свеце.**

Як інфармуе Ватыканскае радыё, дакумент быў апублікаваны 9 красавіка 2018 года на васьмі мовах: італьянскай, французскай, англійскай, нямецкай, іспанскай, партугальскай, польскай і арабскай.

**Адгартацыя складаецца з пяці раздзелаў. У першым** гаворка ідзе пра паўсюднасць паклікання да святасці. Святы Айцец заклікаў не апускаць рукі, мяркуючы, што святое жыццё з’яўляецца недасягальным ідэалам або спрабуючы наследаваць прыклады святасці, да якіх не былі перадвызначаныя. Святасць, да каторай Бог кліча ўсіх, гэта святасць у малых жэстах, што здзяйсняюцца ў адносінах да людзей у штодзённасці, пераканаyы Папа.

**У другім раздзеле** Папа Францішак звярнуў увагу на дзве варожыя святасці тэндэнцыі, якія з’яўляюцца старажытнымі, але вельмі актуальнымі ў сучасным свеце. Першая з іх – гнастытычны спірытуалізм, які аддае перавагу “Богу без Хрыста, Хрысту без Касцёла, Касцёлу без народу”.

Другая – пелагіянскі індывідуалізм, што выяўляецца ў высакамернасці, абумоўленай выкананнем пэўных прадпісанняў ці захаваннем пэўнага “каталіцкага стылю”. Празмерная прывязанасць да закону ці хваленне клопатам аб літургіі, дактрыне або прэстыжы Касцёла, паводле Папы, – гэта некаторыя тыповыя рысы хрысціян, якія спакушаюцца ўзгаданай старажытнай ерассю. Пантыфік нагадаў, што Божая ласка заўсёды пераўзыходзіць “інтэлектуальныя здольнасці і сілу волі чалавека”. Часам “мы занадта ўскладняем Евангелле і становімся рабамі пэўных схемаў”, лічыць ён.

**У трэцім раздзеле** Пантыфік нагадаў, што шлях да святасці складаюць восем евангельскіх блаславенняў. Гаворачы пра кожнае з іх, ён заклікаў быць “убогімі сэрцам”, ведучы стрыманае жыццё; быць лагоднымі ў свеце, дзе сварацца на кожным кроку; быць мужнымі, беручы на сябе боль пакут іншых людзей і спагадліва ставячыся да іх у той час, калі “свет іх ігнаруе і глядзіць у іншы бок”; прагнуць справядлівасці, дзе “хеўра карупцыянераў” дзеліць паміж сабой “торт жыцця”; быць міласэрнымі, дапамагаючы і прабачаючы іншым; захоўваць сэрца чыстым ад усяго, што забруджвае любоў да Бога і бліжняга; “сеяць мір” і “сацыяльную справядлівасць”; і нарэшце, прымаць ганенні, не чакаючы пакуль наступяць спрыяльныя для жыцця Евангеллем умовы.

Паводле Святога Айца, адно з евангельскіх блаславенняў – “шчаслівыя міласэрныя” – з’яўляецца “вялікім правілам паводзінаў” для кожнага хрысціяніна. Быць святым не значыць мецъ вочы, якія “ззяюць у нейкім уяўным экстазе”, але значыць – жыць Богам праз любоў да самых апошніх, напісаў ён.

Папа заўважыў, што існуюць ідэалогіі, каторыя скажаюць Евангелле. Іх прыхільнікамі з’яўляюцца хрысціяне, якія, з аднаго боку, жывуць без адносін з Богам і ператвараюць хрысціянства ў пэўнага кшталту грамадскую арганізацыю. З другога боку, якія пагарджаюць клопатам пра іншых, думаючы, што гэта нешта павярхоўнае, секулярнае, камуністычнае ці папулістычнае. Упрыватнасці, Францішак звярнуў увагу на абавязак прыняцця мігрантаў, які некаторыя каталікі лічаць менш важным за біяэтыку. Прымаць мігрантаў – гэта хрысціянскі доўг, бо ў кожным вандроўным прысутнічае Хрыстус, і гэта не выдумка Папы альбо часовы псіхоз, дадаў Святы Айцец.

**У чацвёртым раздзеле** свайго дакумента Пантыфік падкрэсліў, што сучасная тэндэнцыя да атрымання задавальнення ад жыцця, каторая знаходзіць выйсце ў “геданістычным спажывецтве”, з’яўляецца супрацьлеглай жаданню праслаўлення Бога, якое патрабуе самаахвярнасці ў выкананні ўчынкаў міласэрнасці. Папа нагадаў, што для святога жыцця неабходныя такія рысы, як цярплівасць, лагоднасць, радасць, пачуццё гумару, руплівасць і стараннасць. Акрамя таго, да святасці трэба крочыць у супольнасці і з малітвай, не ўцякаючы пры гэтым ад свету.

**У апошнім – пятым – раздзеле** адгартацыі Францішак заклікаў нястомна весці духоўную барацьбу з д’яблам, будучы пільнымі, узброіўшыся малітвай, сакрамантамі і жыццём справамі міласэрнасці. Напрыканцы дакумента ён падкрэсліў важнасць пранікліваці ў свеце, што праз магчымасці для здзяйснення падарожжаў, вольнага часу і праз адкрыты доступ да выкарыстання тэхналогій не пакідае ў сэрцы чалавека месца, у якім можа гучаць голас Бога.

У прэзентацыі *“Gaudete et exsultate”*, каторая прайшла ў Зале друку Апостальскай Сталіцы, прынялі ўдзел арцыбіскуп Анджэла Дэ Данаціс, Папскі вікарый для Рымскай дыяцэзіі, Джані Валентэ, журналіст агенцтва “Fides” – інфармацыйнага органа Папскіх місійных ініцыятыў, а таксама Паола Біньярдзі – італьянскі педагог, публіцыст і старшыня руху “Каталіцкая Акцыя” з 1999 па 2005 гг.

***“Gaudete et Exsultate”*** стала трэцяй Апостальскай адгартацыяй Папы Францішка. У 2013 годзе выйшла “Evangelii gaudium” (“Радасць Евангелля”), прысвечаная абвяшчэнню Евангелля ў сучасным свеце, а ў 2016 годзе – “Amoris laetitia” (“Радасць любові”) – пра любоў у сям’і.

*Ватыканскае радыё*

# Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя будзе рэарганізавана ў Міждыяцэзіяльную

**11 красавіка падчас 69-га пленарнага пасяджэння Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, якое прайшло ў Гродне, іерархі прысвяцілі шмат увагі ўдасканаленню фармацыі будучых святароў.**

■ **кс. Юрый Марціновіч**, *grodnensis.by*

Згодна з рашэннем ККББ, Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя будзе рэарганізавана ў Міждыяцэзіяльную. Яе рэктарам прызначаны кс. Віталь Вайцяхоўскі. Святар прадставіў біскупам сваё бачанне працэсу фармацыі будучых святароў і практычнага функцыянавання Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

**Даведка:**

**Ксёндз Віталь Вайцяхоўскі** *(на здымку)* паходзіць з парафіі святых Космы і Дам’яна ў Астраўцы. Нарадзіўся 9 кастрычніка 1979 года. Святарскія пасвячэнні атрымаў з рук біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча 29 мая 2004 года.

У 2007–2011 гадах вывучаў тэарэтычную філасофію ў Люблінскім каталіцкім універсітэце (Польшча). З 2011 года выкладае ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі, з’яўляецца пробашчам парафіі св. Антонія і Аб’яўлення Пана ў Каменцы і адміністратарам парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Дзембраве.



# Слова рэдактара





**Дарагія браты і сёстры, шаноўныя чытачы “Каталіцкага Весніка” і сайта Catholicnews.by!**

Сёлета ў красавіку спаўняецца сем гадоў, як была зарэгістраваная газета Віцебскай дыяцэзіі “Каталіцкі Веснік” і выйшаў яе першы нумар. Сем гадоў – гэта, безумоўна ж, не круглая дата і не юбілей у звычайным разуменні гэтага слова. Аднак свой асаблівы сэнс лічба “7” усё ж такі мае. Паводле Бібліі, Пан Бог завяршыў стварэнне свету на сёмы дзень (Быц 2,2-3). Каб падкрэсліць выключнасць сваіх пачуццяў да Рахэлі, Якуб служыў ёй сем гадоў (Быц 23). Прарок Елісей наказаў сірыйцу Нааману абмыцца ў Ярдане сем разоў (1 Свят 5). Лічба “сем” у біблійным разуменні азначае паўнату і абсалют, таму што не належыць зямному, але Божаму вымярэнню.

Цалкам усведамляю сабе, што, нягледзячы на карпатлівую працу рэдакцыі, “Каталіцкі Веснік” усё яшчэ далёкі ад ідэалу. Аднак заўсёды прыемна чытаць і чуць Вашыя водгукі, браты і сёстры, адносна нашай працы. Цікавасць працы ў каталіцкім выданні і заключаецца ў тым, што мы, не зважаючы на сваю чалавечую абмежаванасць, дакранаемся да нечага звышнатуральнага, Боскага.

Падобныя пачуцці могуць у нас узнікаць, калі схіляем свае калені ў касцёле на малітве ці гартаем засяроджана старонкі Святога Пісання, ці ідзем у працэсіі на Божае Цела. Боская паўната напаўняе нашую чалавечую недасканаласць і абмежаванасць. Я свята веру ў тое, што над кожным нумарам газеты упарта працуе і нам дапамагае Святы Дух. Гэта Ягоныя сем дароў нам так неабходныя, каб газета была цікавай, актуальнай і спрыяла распаўсюду Добрай Весткі ў нашай краіне. Аднак хоць Божае натхненне і спрыяе нашаму калектыву нумар за нумарам выдаваць газету і абнаўляць сайт, то ўсё-такі без дапамогі двухсот ахвярадаўцаў рабіць сваю работу і імкнуцца да дасканаласці нам было б вельмі праблематычна.

Таму, пішучы гэтыя радкі, я хацеў бы выказаць удзячнасць ад імя усёй рэдакцыі нашым дарагім ахвярадаўцам, якія жывуць у розных кутках Беларусі. Гэта кожны ваш цяжка запрацаваны рублік дапамагае нам выдаваць “Каталіцкі Веснік” і ўтрымліваць сайт Catholicnews.by. Я горача малюся кожны месяц, адпраўляючы св. Імшу за кожнага з Вас! А тым нашым умілаваным братам і сёстрам, якія ўжо адышлі па ўзнагароду да Пана Бога, выпрошваю на малітве ласку поўнай і вечнай радасці перад Божым абліччам у небе.

У свой час нам вельмі сур'ёзна дапамаглі каталіцкія фонды Kirche in Not, Renovabis і Цэнтр дапамогі Касцёлу на Усходзе пры Каталіцкім Епіскапаце Польшчы, прафінансаваўшы набыццё дарагой, але сучаснай і прафесійнай журналіцкай апаратуры. Мы заўсёды памятаем і вельмі ўдзячныя нашым спонсарам за падтрымку і разуменне нашай сітуацыі.

У першым нумары “Каталіцкага Весніка” у 2011 годзе на першай паласе былі спачуванні біскупа Віцебскага Уладзіслава Бліна з нагоды страшнай трагедыі – тэракту ў мінскім метро. Так ужо атрымалася, што першы нумар быў азмрочаны такой сумнай навінай. Але калі пагартаць падшыўку Весніка за мінулыя сем гадоў, то рэдка ў якім выпуску не знойдзецца матэрыял пра нейкую людскую бяду ці трагедыю. Цярпенне спадарожнічае нам, часам не па нашай віне і заўсёды супраць нашага жадання. Што мы можам зрабіць як вернікі, як хрысціяне?

Мы насамрэч можам многае! Мы можам пастарацца Божае слова, Добрую Вестку зрабіць рэальнай і дзейснай у сваім жыцці!

У далёкай Сірыі ці яшчэ далейшай Пайночнай Карэі гучаць пагрозы, гінуць людзі, па ўсім свеце нянавісць хоча заявіць пра свае правы на чалавека і ягонае жыццё. Ці мы з гэтым пагодзімся? Так, ад палітыкаў залежыць націск чырвонай кнопкі, паводле іх загаду шыхтуюцца шэрагі вайскоўцаў у камуфляжы, але мы маем у сабе вялікую моц ад Бога. Гэта малітва і сведчанне жыцця па евангельскіх прынцыпах.

Таму хачу Вас папрасіць, дарагія браты і сёстры, маліцеся за мір у нашай краіне і ва ўсім свеце! Голас Папы Францішка ў гэтай інтэнцыі гучыць моцна, але гэтаму голасу патрэбная нашая малітоўная дапамога.

Прабачайце адно аднаму, будзьце сведкамі міласэрнасці. Мы шмат пішам цудоўных тэкстаў пра любоў, але найважней гэтай любоўю жыць! Гэта ёсць заданне кожнага з нас: будаваць у сабе і вакол сябе Божае Валадарства.

Можа, на першы погляд, нашыя намаганні і будуць выглядаць слабымі і недасканалымі, але калі мы ў гэтую справу запрашаем Бога, Які ёсць абсалютна святы і дасканалы, то нашае будаўніцтва будзе ўдалым і паспрыяе збаўленню многіх.

Жадаю кожнаму з Вас, дарагія сябры, добрага здароўя, бязмежнай любові і прагі вечнага жыцця. Заставайцеся з “Каталіцкім Веснікам”, каб разам перажыць і наступныя сем гадоў!

*Кс. Віктар Місевіч, галоўны рэдактар*

# Легіянеры Глыбоцкай курыі аднавілі свае абяцанні

**7 красавіка 2018 года ў касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім адбыўся ўрачысты штогадовы сход легіянераў Марыі “Acies”. Амаль 50 членаў Легіёна, актыўных і дапаможных, узносілі свае малітвы ў святыні.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Глыбоцкая курыя “Маці Божай Балеснай” была заснаваная 15 верасня 2007 года. У яе склад уваходзіць сем прэзідыумаў. Гэта легіянеры з Глыбокага і Докшыц, Верхнядзвінска і Ахрэмаўцаў, Дунілавічаў, Дзеркаўшчыны і Сітцаў.

Спатканне распачалося з гімна і пачатковых малітваў легіянераў, затым “воіны Марыі” памаліліся ружанцам і аднавілі прысягу на вернасць Каралеве Легіёну. Кожны легіянер падыходзіў да алтара і, паклаўшы руку на сцяг Легіёна, прамаўляў асабістае прысвячэнне: “Я цалкам духам Твой, Каралева і Маці мая, і ўсё, што я маю, належыць Табе”.

Затым адбылася св. Імша ў інтэнцыі ўсіх легіянераў, актыўных і дапаможных. Пробашч Глыбоцкай парафіі кс. Мікалай Ціхановіч, які цэлебраваў Літургію, заахвоціў “воінаў Марыі” ўзрастаць у святасці, быць самім саведкамі жывога Бога, быць напоўненымі радасцю Духа Святога, каб праз сваю марыйную паслугу ласка Божая дакраналася да ўсіх, хто з імі звязаны. Святар пажадаў, каб гэтая Божая справа развівалася і прысвяцію легіянераў Марыі.

На заканчэнне Эўхарыстыі ўсіх прысутных запрасілі на пачастунак, дзе была магчымасць абмеркаваць справы і падзяліцца вопытам сваёй місійнай дзейнасці.



# Крыж вярнуўся ў касцёл

**30 сакавіка 2018 года запомніцца вернікам Варапаеўскай парафіі не толькі як Вялікая Пятніца Мукі Пана, але і як дзень, калі быў асвечаны і ўсталяваны на касцёле крыж. Крыж з вежы старога касцёла, які раней, да 1959 года, размяшчаўся ў цэнтры мястэчка, на месцы цяперашняга кінатэатра.**

**Аліна Латыш**

Летам 1959 года касцёл разабралі, бярвенне перавезлі ў Дунілавічы і зрабілі клуб. На месцы храма засталіся толькі кучы смецця. Адзін крыж (з галоўнай вежы) забраў дадому закрыстыян Абуховіч, на ягонай магіле пасля і ўстанавілі яго. А жыхар вёскі Ясюкі Мар'ян Тачыцкі пасля працы паранейшаму хадзіў маліцца на месца храма. І раптам убачыў сярод друзу крыж. Так, гэта быў крыж з меншай вежы: прыгожа выкаваны, але пагнуты, скрыўлены (відаць, за яго чаплялі трос, калі хацелі скінуць вежу). Праз дзеньдва яго маглі вывезці як непатрэбнае смецце... Мар'ян узяў крыж дадому, схаваў ад дажджу і снегу пад страхой.

Ішлі гады... З радасцямі і болем. З рэдкімі паездкамі ў касцёлы: Глыбокае, Ваўкалаты, Мосар, Гадуцішкі... Бліжэй касцёлаў не было. З праблемамі і нягодамі сямейнага жыцця... Згарэла іх хата на хутары каля Ясюкоў, ледзь паспелі вынесці жончыну маці, якая не магла хадзіць.

Новую хату будавалі ў вёсцы. Пасля няўдалай пункцыі Мар'ян тры гады ляжаў пластом, не мог падняцца. Падняло яго на ногі страшнае няшчасце: смерць адзінага сына Юзафа. "Адразу падняўся і падышоў да труны сына", – расказвала мне яго дачка Данута. Як ён радаваўся, калі ў Варапаеве адчынілі спачатку капліцу, а потым сталі будаваць касцёл! Шмат разоў ён хадзіў на будаўніцтва працаваць. А якім асветленым, усмешлівым быў яго твар, калі ў нядзелю ён ішоў з касцёла! Хадзіў у бальніцу маліцца за хворых... Менавіта сям'я Мар'яна і Чаславы была ініцыятарам устаноўкі каля вёскі драўлянага крыжа. А праз некалькі гадоў іх унук Павел зрабіў металічны крыж, які быў асвечаны ксяндзом Ч. Куцмежам летам 2012 года.

У маі 2015 года Мар'ян Тачыцкі адышоў у вечнасць. І толькі зімой гэтага года ягоная жонка ўспомніла пра выратаваны крыж. Настаў час ягонага вяртання ў касцёл...

Ксёндз пробашч Ежы Вільк сам прыехаў па крыж, паабяцаўшы, што яго адновяць і змесцяць на касцёле, каб памяталі пра страшныя часы наступныя пакаленні. Аднаўленнем крыжа займаўся токар Варапаеўскай дыстанцыі пуці Станіслаў Кішко, яму дапамагаў зваршчык Дзмітрый Воўк. Ім трэба было зняць іржу, выпрастаць яго, даварыць некаторыя дэталі. А потым – прымацаваць яго да сцяны касцёла.



Пасля ўстанаўлення крыжа ксёндз-пробашч сказаў: "Дзякуем Табе, Хрысце, за Твой крыж, за тое, што адкупіў нас усіх на крыжы. Дзякуем за тых людзей, якія гэты крыж пабожна збераглі для нас, каб ён быў жывым сведкам тых страшных часоў бязвер'я... Просім аб Божай Міласэрнасці для тых, хто з гэтым крыжом ваяваў, хто хацеў яго знішчыць, каб Бог ім прабачыў".



**Мар'ян Тачыцкі ідзе з касцёла.** *Фота з архіва сям'і Тачыцкіх*

# Памяці святара Уладаса Пятрайціса

**Як хутка бяжыць час! Мінула ўжо шэсць гадоў, як няма сярод нас вялікага Чалавека, сапраўднага Пастыра, ксяндза-каноніка Уладаса Пятрайціса, былога шматгадовага пробашча Мёрскай парафіі, пазней пробашча Слабодкаўскай парафіі і адміністратара Іказненскай парафіі.**



У 1985 годзе з Літвы ксёндз Уладас Пятрайціс прыехаў на Мёршчыну і пачаў усе свае сілы і веды аддаваць Касцёлу і людзям. Ён адразу стаў наведваць навакольныя населеныя пункты, сістэмна аб`язджаў вёскі, знаходзіў час наведваць касцёл у Ідолце, цэлебраваць святыя Імшы ў Лявонпалі, Друі, Верхнядзвінску, Дзісне.

Ксёндз Уладас Пятрайціс усё гэта рабіў дзеля людзей, каб мы маглі жыць з Богам і Касцёлам. Святар быў адкрыты для кожнага з нас.

Большасць з тых, хто ведаў ксяндза Уладаса Пятрайціса, каму пашчасціла хоць раз у жыцці сустрэцца з гэтым святаром, захоўваюць памяць пра яго ў сваіх сэрцах.

**Якім мы памятаем ксяндза Уладаса Пятрайціса?**

– Гэта быў Айцец духоўны, які паказаў нам дарогу да Пана Бога.

– Ксёндз Уладас Пятрайціс заўжды хацеў, каб усё было "вельмі": каб нашы малітвы былі вельмі шчырымі, каб, пачуўшы Яго адметныя казанні, мы адчулі ў сваіх сэрцах вельмі вялікае жаданне слухаць голас Пана Бога, каб мы былі актыўнымі, каб дэкарацыі ў касцёле былі прыгожымі, каб любілі сваю Беларусь, як ён яе палюбіў. Гэта чалавек быў вельмі-вельмі светлы.

– Ксёндз заўжды запрашаў: запрашаў на працу, запрашаў на малітву, запрашаў на гарбату.

– Ксёндз Уладас Пятрайціс заўжды спяшаўся, заўжды быў заклапочаны, але заўжды з настроем, з прыемнай усмешкай і пачуццём гумару, адкрыты для ўсіх, каго сустракаў на сваім жыццёвым шляху.

– Гэта быў духоўны Настаўнік: калі людзі мелі праблемы, то ішлі да яго. Ксёндз любіў паўтараць: "Для Бога няма нічога немагчымага".

– Ксёндз заўсёды быў для людзей і для Пана Бога.

Адышоў у вечнасць ксёндз Уладас Пятраціс 9 мая 2012 года. 15 мая 2012 года ён быў пахаваны каля касцёла ў Мёрах, дзе святар адпрацаваў большую частку свайго зямнога жыцця.

Мы памятаем пра яго ў сваіх малітвах!

*Ад імя вернікаў Мёрскага раёна,*
***Алена Сакалоўская***

# Першая сустрэча з Езусам

**Памятаю, з чаго пачалося маё першае знаёмства з асобай Езуса, а таксама мая першая дзіцячая размова з Ім. Я мела тады тры з паловай або чатыры гады.**

У нас дома заўсёды былі нейкія іконы, асабліва было шмат даўніх, што засталіся нам ад бабулі. Была ў нас такая пацёртая старая ікона змучанага Езуса ў цярновай кароне.

Вечарэла. Мама, як заўсёды, запрасіла мяне разам з ёй памаліцца. Мы адгаворвалі вечаровыя пацеры перад іконай Змучанага Хрыста. Пасля малітвы я проста спытала: чаму гэты Пан Езус такі сумны і на Ім нешта надзета з калючкамі? Мама растлумачыла, як магла, што гэта Сын Божы, якога замучылі людзі за нашыя грахі. Расказала пра крыжовы шлях, пра цярновую карону...Памятаю, мяне моцна ўразіла, што людзі так здзекаваліся з Яго. Адзінае, што мяне хвалявала ў той момант, гэта пытанне: "Чаму Яму ніхто не дапамог? Чаму ніхто не заступіўся?"

Калі мама пайшла ў кухню, я заплакала. Мне было шкада Езуса, а пры маме плакаць па нейкім незнаёмым чалавеку мне не хацелася. Унутры быў моцны пратэст. Я стала на калені, узяла ікону Езуса і пацалавала. Тады адбылася мая першая размова з Ім. Я сказала, што калі б я там была разам з Ім, я б Яго аднаго не пакінула, я б не дазволіла здзекавацца з Яго і забіць Яго. Гэта была мая першая сустрэча з Ім. І з таго моманту я зразумела, што гэты Чалавек мне не абыякавы. Цяпер, калі я ёсць тым, кім ёсць, часта задаю сабе пытанне: "Ці верная я тым сваім словам, сваім абяцанням?"

Калі я еду на працу ў аўтобусе, часта малюся ютрань, але саромеюся зрабіць знак крыжа. Я раблю маленькі крыжык на ілбе. Мне неяк няёмка ад магчымых "нязручных" позіркаў у мой бок. Я не саромеюся сваёй веры, аднак разумею, што тая дзіцячая любоў была большая за мой страх "нязручных" позіркаў. Магчыма, так і ёсць: дзіцячая любоў большая за наш страх быць незразумелым, большая за пачуццё "нармальнасці", бо дзеці гэтага проста не патрабуюць...

Часам добра ўспомніць, якое ты дзіця ў вачах Бога!

*Вікторыя Зарэчная*

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаная і любімая **Алена Татун**! Сардэчна віншуем Вас з нагоды Вашага 50-годдзя (4 мая)! Хай кожны Ваш дзень будзе напоўнены дабрынёй, асвечаны Божай ласкай і задавальненнем ад абранай Вамі працы!*

*Вы ў нас не толькі працавітая пчолка, але і ў касцёле замяняеце самую пяшчотную птушачку – салаўя. Цудоўны парадак і чысціня ў касцёле, цудоўны хор, які Вы арганізавалі, прыгожыя дэкарацыі на святы і букеты кожны дзень! А яшчэ Вы – катэхетка. Пяшчотна, з любоўю ставіцеся да дзетак. Ды ўсіх Вашых клопатаў і працы не пералічыць.*

*Дзякуем Вам, Леначка, за Вашу працу, за старанне для нашага касцёла ў в. Канстанцінава, за нашых дзетак, якія пачынаюць ісці Божай дарогай! Зычым Вам здароўя, Божага благаслаўлення і ўсіх патрэбных ласкаў!*

***З вялікай удзячнасцю, парафіянкі Чеслава Вышадка, Людміла Дырко***

# Вялікдзень у Паставах

**Шчыра святкавалі Вялікдзень юныя парафіяне новай парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах.**

Для правядзення свята быў выбраны Дом культуры. Яго дырэктар, Ала Чарнюк, Алена Слядзеўская – вядоўца, іншыя работнікі культуры выконвалі ролі Клоўна, Бонсціка, Метэарыта, Паштальёна, зваркоў. Яны весялілі дзяцей, праводзілі гульні, конкурсы, танцы. За музычнае суправаджэнне свята адказваў Аляксей Кананаў. Такі цудоўны ранішнік пачаўся з віншавання ксяндза Андрэя са святам Вялікадня.

Уражвала прысутных выстава велікодных яек: розныя колеры, цікавая расфарбоўка. Яйкі былі ў кошыках, у самаробных гняздзечках, нават з курачкамі. Фантазіі ўдзельнікі праявілі шмат. Цікавыя велікодныя кампазіцыі атрымаліся ў Лізаветы Хмяльніцкай, Насці Фярковіч, Стасіка Коршунава, Кацярыны Жук, МашыТананы і іншых. Усе-усе дзеткі атрымалі падарункі за ўдзел у конкурсах. Потым сфатаграфаваліся на памяць разам з ксяндзом Андрэем і арганізатарамі свята. А затым удзельнікаў запрасілі за "салодкі" стол.

Я пацікавілася ў дзяцей, ці спадабалася ім свята? За ўсіх адказаў Сямён Іваноў: спадабалася, бо акрамя святкавання ў клубе яны былі ў касцёле на набажэнствах, а таксама свянцілі яйкі. Ды і дома ва ўсіх панаваў святочны настрой.

*Ірына Філановіч, г. Паставы*



**Касцёл Антонія Падуанскага ў Паставах.** *Ілюстрацыйнае фота*

# Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!

**Незадоўга да Вялікадня ў нашым касцёле Святых Апосталаў Пятра і Паўла ў Дрысвятах адбыліся рэкалекцыі. Іх праводзіў ксёндз Славамір Самковіч з Пагошчы.**

З вялікай увагай слухалі вернікі яго разважанні. Як разумна, лагічна, трапна гучалі словы святара! Ён нібы зазірнуў у душу кожнаму, убачыў асабістыя перажыванні і даў адказ на сумненні. Мы вельмі ўдзячныя ксяндзу Славаміру за выдатна падрыхтаваныя рэкалекцыі. Жадаем яму ўсіх дабротаў і чакаем у нашым касцёле яшчэ і яшчэ!

Пасхальны Трыдуум праводзіў наш любы ксёндз Генадзь Ляўкоў вельмі цікава. Мы, парафіяне, удзячныя Пану Богу, што ў нашай парафіі служыць такі аддадзены сваёй справе святар. Нізкі паклон яму за добрае сэрца, за чыстую, светлую і адчувальную душу, за бясконцы аптымізм! Асаблівая падзяка нашаму любімаму ксяндзу за Велікоднае свята, якое ён падрыхтаваў і падарыў нам!

Шаноўны ксёндз Генадзь! Няхай Уваскрослы Езус Хрыстус благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая хай ахінае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі!

Нашы найлепшыя пажаданні таксама Вашым бацькам! Няхай Маці Божая заўсёды атуляе іх сваёй пяшчотай, любоўю і малітвай!

*Удзячныя вернікі*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч
Віктар Мар'янавіч
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя*** *"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# “Дарожныя знакі нашага жыцця”

**У мінулым нумары мы размаўлялі пра наборы эмоцый, якія мае кожны чалавек: “пазітыўныя” эмоцыі нам прыемна адчуваць, “негатыўныя” цяжка перажываюцца, “нейтральнае” здзіўленне можа “пераскокваць” з адной групы да іншай у залежнасці ад сітуацыі.**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Кожная эмоцыя мае сваё важнае і незаменнае значэнне для чалавека. Кожная эмоцыя – гэта своеасаблівы знак, які рэгулюе наш рух на дарозе жыцця, дапамагае зрабіць гэтую дарогу зразумелай і бяспечнай, каб эфектыўна ўзаемадзейнічаць з астатнімі ўдзельнікамі “дарожнага руху”.

Ну што, рушым!

**Радасць** – цудоўная, прыгожая эмоцыя. Радасці мы жадаем у віншаваннях, радасці чакаем ад сустрэчаў, сяброў, святаў. Радасць можа пакідаць пасля сябе доўгі прысмак прыемных успамінаў. Калі звярнуцца да метафары дарожнага знаку, то радасць сігналізуе нам пра тое, што зараз *мы ў добрым месцы, маем спрыяльныя ўмовы*. Стан радасці натхняе на працу, праекты, творчасць, адпачынак, кантакты.

**Цікавасць** – эмоцыя энергічная. Цікавасць – рухавік, які *штурхае да новага:* падысці, паглядзець, дакрануцца, пакаштаваць, паспрабаваць. Гэтая эмоцыя становіцца пачаткам прафесійнага росту, авалодання новым інструментам, базай для вялікіх адкрыццяў, штуршком для новых знаёмстваў і трывалага сяброўства.

**Здзіўленне** прызначана прыцягнуць увагу да чагосьці новага ці нечаканага. Эмоцыя, якая дапамагае пазнаваць гэты свет ці *засяродзіцца на важным*, не прамінуць штосьці вартае ўвагі.

**Страх** – натуральная рэакцыя чалавека на небяспеку. Небяспеку рэальную ці ўяўную. Небяспеку фізічную, сацыяльную ці экзістэнцыяльную. А прасцей кажучы, мы баімся болю, хваробы ці смерці. Баімся быць нелюбімымі, адкінутымі, непрынятымі нашым атачэннем. Баімся знікнуць і не пакінуць следу пасля сябе, быць забытымі, пражыць жыццё і не знайсці свайго месца ў ім, не зразумець свайго паклікання. Адчуванне страху – знак небяспекі, *знак, які пабуджае пазбягаць рэальнай ці ўяўнай пагрозы*. Часам страх можа выратаваць ці палегчыць жыццё, а часам можа стаць непераадольнай перашкодай на нашым шляху.

**Агіда** – эмоцыя, якая першапачаткова абараняе нас ад сапсаванага і небяспечнага. Нам агідна, каб не з’есці і не атруціцца, каб не дакрануцца і не захварэць. Ад агіднага выгляду і паху хочацца зморшчыцца і адхінуцца, што часам *можа выратаваць нам жыццё, а часам абараніць ад непрыемных кантактаў*.

**Гнеў** – няпростая эмоцыя, сацыяльна непрымальная. За гнеў саромяць. Злавацца і злаваць страшна. Бескантрольная злосць можа нанесці сур’ёзную фізічную шкоду ці балючую псіхалагічную траўму. Але ж гэта эмоцыя мае даволі канкрэтную і важную функцыю. Гнеў ярка *сігналізуе пра парушэнне нашых межаў*. Гнеў сігналізуе, што хтосьці ці штосьці робіць наш рух некамфортным, нязручным ці немагчымым, што хтосьці заняў нашу дарогу. Гнеў – важны механізм адбудовы здаровых адносінаў, без маніпуляцый і падману, гнеў пабуджае да праяснення сітуацыі і мусіць весці да перамоваў. Карыстацца гэтай эмоцыяй няпроста і страшна, але калі навучыцца, гнеў можа стаць добрым памагатым, быць не разбуральнай, а творчай энергіяй.

**Сорам** – эмоцыя вельмі непрыемная, часта прыпыняе добрыя парывы, не дае рэалізоўваць свой патэнцыял, свае дары. Сорам – эмоцыя сацыяльная, гэта азначае, што саромімся мы іншых людзей і баімся рэакцыі іншых людзей на сябе. Але ж разам з тым менавіта гэтая эмоцыя *дапамагае нам рэгуляваць адносіны з нашым атачэннем*. Дзякуючы сораму мы можам адчуваць, што рабіць, каб быць прынятымі, каб мець магчымасць набліжацца да людзей і будаваць важныя адносіны.

**Сум** (ідзе гаворка пра “печаль”, “грусть” у перакладзе на рускую мову, а не пра “скуку”). Эмоцыя, якая *падкрэслівае значнасць чалавека, па якім мы сумуем, важнасць падзеі, глабальнасць згубы*. Калі мы адчуваем сум, мусім разумець: у нашым жыцці адбываецца штосьці вартае нашага часу і ўвагі.

Такім чынам, каб падвесці вынікі, праедзем па нашай дарозе, паглядзім яшчэ раз на знакі, якія сустракаюцца на шляху. Радасць паказвае на спрыяльныя ўмовы, цікавасць рухае да новага, здзіўленне і сум звяртаюць увагу на важнае. Страх і агіда абараняюць ад небяспечнага, гнеў прыпыняе парушэнне межаў, сорам рэгулюе адносіны.

Як бачым, няма ніводнай непатрэбнай, непрадуманай эмоцыі, кожная дапамагае рухацца наперад – да сваёй мэты.

У наступных нумарах запрашаю разгледзець разам са мной найбольш складаныя эмоцыі падрабязней і разабрацца з тымі пытаннямі, якія будуць узнікаць.

Дзякуй за ўвагу!



## Айцы марыяне запрашаюць сем’і ў Росіцу на супольную малітву

**12 мая, у суботу, айцы марыяне з Росіцы запрашаюць сем’і на супольную малітву ў санктуарый бласлаўлёных пакутнікаў.**

**У праграме:**

**11.00** – Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту (магчымасць споведзі, Святы Ружанец з разважаннямі);

**12.00** – святая Імша, пасля адбудзецца адмысловае пастырскае бласлаўленне сем’яў;

**13.00** – канферэнцыя. Для дзяцей у гэты час будзе арганізавана спецыяльная забаўляльная праграма;

**14.00** – пачастунак у летнім кафэ “У бусла”.



## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае)*, **Часлава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Яніна Шыкуць** *(Мосар)*, **Ганна Спірыдовіч** *(Лепель)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Лапушынскі Г.Г.** *(Коўзаны)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы)*, **парафіяне з Глыбокага, Ян Сапель** *(Браслаў)*, **парафіяне з Пагошчы, Яніна Амельяненка** *(Глыбокае)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Станіслаў Вышадка** *(Завараты)*, **Яніна Курыловіч** *(Курылавічы)*, **Паўлава Е.П.** *(Віцебск)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Віталь Рагоўскі** *(Браслаў)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Юстын Пачкоўскі** *(Савуткі)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Іван Сіманенак** *(Паставы)*, **Раіса Казаровец** *(Варапаева)*, **Кавалёнак С.К.** *(Прусы)*, **Эма Бугаева** *(Лынтупы)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Бервячонак А.Б.** *(Прусы)*, **Веранiка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Соф’я Чырвінская** *(Язні)*, **Позняк Л.А.** *(Прусы)*, **Франц Жусель** *(Петкунішкі)*, **Ганна Жусель** *(Петкунішкі)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

# Айцец Часлаў Курэчка ў Пагошчы: "Калі ваша вера моцная, Бог робіць для вас цуды!"

**У Нядзелю Божай Міласэрнасці, якую Каталіцкі Касцёл у гэтым годзе адзначыў 8 красавіка, у парафіі Божай Міласэрнасці ў Пагошчы, што ў Відзаўскім дэканаце, адзначылі адпустовы фэст.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*




На ўрачыстасць у храме сабраліся мясцовыя вернікі, а таксама госці з Браслава, Глыбокага і іншых навакольных парафій. Прыбылі таксама святары: айцец Часлаў Курэчка з Росіцы, ксёндз Вячаслаў Пялінак з Ідолты, айцец Анджэй Бочар з Далёкіх.

Святая Імша распачалася а 14-й гадзіне з урачыстага ўваходу ў храм працэсіі міністрантаў і святароў. З прывітальным словам да вернікаў звярнуўся пробашч парафіі ксёндз Славамір Самковіч. Ён падзякаваў святарам за прысутнасць і папрасіў айца Часлава ўзначаліць святую Імшу і прамовіць слова.

Урачыстасць сваім спевам упрыгожваў парафіяльны хор з Браслава пад кіраўніцтвам арганісткі Іны Сапун.

Ксёндз Вячаслаў прачытаў Евангелле, якое было прысвечана падзеям першай нядзелі пасля ўваскрасення Хрыста. Апостал Фама сказаў, што не паверыць ва ўваскрасенне Пана, пакуль не ўкладзе ў яго раны пальцы. Езус прапаноўвае яму гэта зрабіць і кажа: "Ты паверыў, бо Мяне ўбачыў. Шчаслівыя тыя, якія не бачылі Мяне, а паверылі!"

У сваім слове да вернікаў айцец Часлаў звярнуў увагу на тое, што нам трэба кожны дзень працаваць над нашай верай. Імша – гэта сустрэча з Езусам Уваскрослым, таму трэба не прапускаць нагоды пабыць на гэтай сустрэчы. Нам трэба часцей углядацца ў Крыж, каб паразважаць над жыццём і мукай Пана. Бо зараз, у сучасным свеце, нам часта для гэтага не хапае часу. Калі не хапае часу, то, можа, варта менш глядзець тэлевізар ці сядзець у інтэрнэце, бо ўсяго там не пераглядзіш, а кожны дзень хоць нейкі час прысвяціць Збаўцу.

Айцец Часлаў прывёў прыклад веры расіцкіх мучанікаў, ксяндзоў Антонія і Юрыя, якія не здрадзілі сваім вернікам і пайшлі разам з імі ў агонь. Каб паразважаць над сваёй верай, над тым, што маем у сваіх сэрцах, святар запрасіў усіх у Росіцу на сустрэчу, што пройдзе 10 мая.

Трэба пераадолець холад нашай веры, – адзначыў святар напрыканцы гамілії, і кожны дзень працаваць над яе ўзмацненнем. Калі наша вера моцная, то Бог тады робіць у нашым жыцці цуды. Таму трэба паступаць так, каб наша жыццё было прыгожым спевам на хвалу ўваскрослага Езуса.

Неабходна адзначыць, што алтар у храме быў вельмі прыгожа ўбраны. Незвычайна глядзеліся два велікодныя яйкі, якія былі выкладзеныя з кветак. Толькі падышоўшы вельмі блізка, можна было пабачыць, што кветкі зробленыя з папяровых сурвэтак. Стварылі гэту прыгажосць парафіяне з Пагошчы. Кожнае яйка складалася з 450 кветак. Гэта трэба зрабіць было 900 кветачак, скруціць іх, пафарбаваць, сабраць да месца і аформіць. Але праца таго каштавала, усе любаваліся гэтай прыгажосцю!

На заканчэнне Імшы вернікі памаліліся Літаніяй да Божай Міласэрнасці і прайшлі эўхарыстычнай працэсіяй вакол касцёла. Затым праспявалі гімн "Цябе, Бога, праслаўляем!", і айцец Часлаў благаславіў усіх Найсвяцейшым Сакрамантам, а хор з Браслава выканаў яшчэ некалькі прыгожых велікодных спеваў.

Пасля Імшы святкаванне прадоўжылася за святочным сталом, куды ксёндз Славамір запрасіў усіх святароў і гасцей урачыстасці. Пробашч падзяліўся з намі, што на 15 ліпеня бягучага года запланавана намашчэнне алтара храма і асвячэнне крыжа ў цэнтры паселішча.




## Вернікі і залежнасць. Апытанне

**У сённяшнім нумары мы публікуем вынікі, як вернікі адказалі на пытанне: "Ці адчуваеце Вы сябе залежным чалавекам (тэлефон, тэлевізар, інтэрнэт, алкаголь і г.д.)?"**

Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:

- Так, я залежны ад некаторых рэчаў – 105 адказаў;
- Не маю ніякай залежнасці – 25 адказаў;
- Не задумваўся над гэтым пытаннем – 16 адказаў;

**Усяго – 146 апытаных.**

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***



## Фотафакт
## Дабрачынная акцыя ад CARITAS прайшла ў Глыбокім




Дабрачынная акцыя "Я дапамог Сафіі і Івану" прайшла ў Глыбокім у Вялікую Суботу, 31 сакавіка.

Валанцёры глыбоцкага парафіяльнага CARITAS збіралі грашовыя сродкі для сем'яў Шылей і Зубко з Паставаў. Дзеці з гэтых сем'яў – Сафія Шылей і Ваня Зубко – хворыя на дзіцячы цэрэбральны паралюш другой ступені. Дзеткам патрабуецца дарагое лячэнне ў Варшаве ў Цэнтры інтэнсіўнай тэрапіі OLINEK, дзе вельмі вынікова лечаць такія хваробы.

Усяго дзякуючы ахвярнасці глыбоцкіх парафіянаў было сабрана 1721 рубель 34 капейкі.

У наступную суботу, 7 красавіка, падобная акцыя была праведзеная і каля глыбоцкага праваслаўнага сабора.

*Зміцер Лупач*

# Касцёл на Кубе
## Аповед місіянера



**Пробашч з Талачына айцец Станіслаў Скрыдалевіч SAC нядаўна вярнуўся з Кубы, дзе амаль два гады быў місіянерам у мясцовых парафіях. У сённяшнім нумары "Каталіцкага Весніка" святар дзеліцца сваімі ўражаннямі і распавядае пра сваё служэнне.**

**– Айцец Станіслаў, распавядзіце, як і калі Вы патрапілі на далёкую Кубу?**

– 11 студзеня 2016 года распачалося нашае падарожжа на Кубу. Перад тым як паехаць туды, я праходзіў трохмесячную падрыхтоўку ў Іспаніі, дзе была магчымасць паўдзельнічаць у моўных курсах. Увогуле мы былі першымі палатынцамі, што паляцелі туды як місіянеры. Мы былі ўдвух: я і айцец Лукаш з Польшчы. Да сабратоў-палатынцаў быў напісаны ліст-заклік ад правінцыяла аб адкрыцці новай парафіі на Кубе. Я напісаў просьбу. Так туды і патрапіў. Некалькі месяцаў на Кубе мы з а. Лукашам жылі асобна, каб удасканаліць мову. А потым атрымалі сваю парафію ў Гаванскай дыяцэзіі.

**– Што Вас асабіста найбольш кранула і ўразіла?**

– На Кубе ўражвае шмат рэчаў. Гэта зусім іншы край. Там вельмі бачны кантраст і існуе вялікая розніца ў тым, як жывуць людзі. Камунізм, які імкнуўся да роўнасці і да таго, каб усе жылі аднолькава, не дасягнуў сваёй мэты. Таму зараз нехта мае вельмі шмат, а хтосьці нічога не мае, хтосьці ездзіць на кані, а нехта на вельмі дарагім аўтамабілі. І гэта першае і асноўнае, што кідаецца ў вочы – беднасць людзей, каторыя жывуць толькі сённяшнім днём. Аднак хочацца сказаць, што кубінцы, нягледзячы, напрыклад, на беднасць, заўсёды радуюцца таму, што маюць.

**– А як выглядае справа з Касцёлам на Кубе?**

– Калі казаць пра каталіцтва, то там яскрава бачны ўплыў іспанскай традыцыі. Вялікае значэнне маюць розныя святыя, фігуркі, а асабліва працэсіі. Калі ў парафіі адпусты, то працэсіі абавязкова павінны быць. І нават свята Вялікадня можа праходзіць не так урачыста, як нейкая працэсія. У касцёле няшмат вернікаў, моладзі. Камунізм на Кубе вельмі моцна знішчыў каталіцкую веру. Зрэшты, калі ў кубінцаў запытацца, то яны амаль усе вернікі, аднак веру сваю не практыкуюць.

**– Якой была парафія, дзе Вы служылі?**

– Мы жылі ў мясцовасці Манагуа. І з трох-чатырох тысяч жыхароў у касцёл у нядзелю прыходзіла толькі 20-30 чалавек. Вельмі важнай для ўсіх мясцовых жыхароў была малітва за памерлых. Яна адбывалася ў будния дні. І тады часам было больш людзей у касцёле, чым у нядзелю. Некаторыя з тых, што прыходзілі на гэтую малітву, можа, нават і не былі ахрышчаныя. Тады ж прыходзілі таксама і прадстаўнікі язычніцкага культу "сантэрыя", што злучае ў сабе элементы каталіцызму і вераванні афрыканскіх народаў.

Вельмі цяжка было прывесці ў касцёл моладзь. Дзеці прыходзілі часцей, але можа, таму, што можна было пагуляць з намі ў мяч або з'есці нешта смачнае. Аднак праз некаторы час гэтыя дзеці таксама прападаюць з парафій. Большасць нашых парафіян – гэта людзі, старэйшыя за 65 гадоў. І тут хочацца сказаць, што знішчыць усё вельмі лёгка, так як гэта зрабіў камунізм на Кубе. Але каб аднавіць, патрэбна шмат часу. Таму там вельмі неабходная новая евангелізацыя.

Акрамя Манагуа, мы працавалі таксама яшчэ ў некалькіх вёсках.

**– А якое стаўленне вернікаў было да Вас як да місіянераў?**

– Нашы парафіяне былі вельмі добразычлівымі ў адносінах да нас, нават нягледзячы на тое, што камунізм заўсёды паказваў святара ў дрэнным вобразе. Яны заўжды былі ўдзячныя нам. Некаторыя дзякавалі нават пасля кожнай святой Імшы за тое, што мы тут служым і згадзіліся прыехаць. Дзякавалі таксама не толькі парафіяне, але і мясцовыя святары. Бо пакліканняў там вельмі мала. На Кубе ёсць адзінаццаць дыяцэзій і адна семінарыя, дзе навучаецца прыкладна 20-30 чалавек. Таму ў апошні час сюды прыязджае шмат місіянераў.

Увогуле да нас ставіліся вельмі добра, людзі былі шчырыя і адкрытыя. Калі нас запрашалі ў госці, то казалі: "Вось твой дом". А як мы выходзілі, гаварылі: "Ведаеш, дзе твой дом". Гэта не былі пустыя словы. І нават калі самі людзі былі беднымі, то гатовыя былі падзяліцца тым, што маюць. Такое стаўленне надавала сіл.

**– Чаму Вы навучыліся, прабываючы на Кубе?**

– Сустрэча з рознымі людзьмі дапамагае быць адкрытым на іншых. Мы як місіянеры павінны былі дастасавацца да кубінскай культуры, традыцый, а не яны да нас. Гэта таксама быў добры час, каб паглядзець на сябе з іншага боку і адарвацца ад усяго, што мелі ў Беларусі. Напрыклад, там не было магчымасці карыстацца інтэрнэтам усе 24 гадзіны. Першы год для таго, каб напісаць камусьці электронны ліст, трэба было ехаць за чатырнаццаць кіламетраў і купляць спецыяльную картку на пэўны час. Але пазней у нашай вёсцы ўжо зрабілі інтэрнэт у парку каля касцёла. Прабываючы на Кубе, я навучыўся быць больш пакорным і простым.

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***



З парафіянамі


З міністрантамі


Падчас працэсіі

# Святы, на якога працавалі анёлы

### Святы Ізыдор Пахач з Мадрыда (1080-1130) – 15 мая



**У гісторыі Касцёла ёсць святыя, якія цярпліва чакалі абвяшчэння сваёй святасці не адно стагоддзе. Адным з іх з'яўляецца Ізыдор Пахач, апякун Мадрыда і сялянскага жыцця. Амаль пяць стагоддзяў прайшло з дня яго адыходу ў вечнасць да кананізацыі, якую правёў Папа Грыгорый XV.**

**айцец Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*

Выклікае здзіўленне такое спалучэнне: апякун Мадрыда і сялянскага жыцця. Як ідэйна можна сумясціць 3-х мільённую сучасную метраполію і працу ў полі? У часы Ізыдора Мадрыд быў невялікім мястэчкам, за якім адразу распачыналіся палі. Ізыдор, родам з беднай малазямельнай сям'і, працаваў на зямлі ў мясцовага феадала. Ён быў чалавекам працавітым і сумленным у выкананні штодзённых абавязкаў, але гэта не захавала будучага святога ад абвінавачванняў, што не выконвае свае заданні, а бярэ за працу плату.

Гаспадар прасачыў за Ізыдорам і адкрыў дзіўную рэч: яго працаўнік з раніцы не ідзе на поле, але мае такую пабожную звычку і наведвае мадрыдскія святыні. Калі гаспадар у злосці планаваў пакараць Ізыдора, ужо на полі ўбачыў наступную з'яву: вось вол цягне плуг, а за ім ідзе анёл Божы! Назіраючы даўжэй за сваім парабкам, гаспадар адзначыў і яго працавітасць, і сумленнасць. Гэта прывяло яго да рашэння зрабіць будучага святога адказным у сваім маёнтку.

Даследчыкі жыцця Ізыдора адзначаюць, што сёння цяжка аддзяліць сапраўдныя цуды, якія адбыліся пры яго жыцці, і легенды, каторымі абрасла яго постаць. Без сумневаў ведаем, што ён быў чалавекам святым, і таксама асвяціў сваю сям'ю. Яго жонка Марыя прызнана благаслаўлёнай!

Пра святасць Ізыдора сведчыць і яго жыццё, і яго магутнае заступніцтва пасля смерці. Бадай, няма такой хваробы, якая не адступала б пасля малітвы на месцы яго пахавання! Людзі верылі, што дастаткова прыехаць да Ізыдора, памаліцца і пылам з яго пахавання пасыпаць хворае месца. Гэта вельмі нагадвае евангельскія часы, калі людзі клалі сваіх хворых пры дарозе, каб толькі цень святога апостала Пятра ўпаў на чалавека дзеля яго аздараўлення!

Да сённяшняга дня св. Ізыдор з'яўляецца прыкладам сумленнасці ў працы і тым, хто вучыць спалучаць штодзённыя абавязкі з малітоўным жыццём.

# Беларусь у святых гербах: Узда

**Апостала Пятра мы ўжо сустракалі на гербах беларускіх гарадоў – Барысава і Малечы. А вось апостал Павел прысутнічае пакуль што першы раз. Тое, што два апосталы знайшлі сабе месца на адным гербе, не павінна здзіўляць: і католікі, і праваслаўныя часта іх паказваюць разам.**

**айцец Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*



Выява на гербе Узды мае праваслаўны радавод. У горадзе дзве святыні: касцёл Узвышэння Святога Крыжа і царква ў гонар святых апосталаў Пятра і Паўла. Паколькі Узда гістарычна не мела Магдэбургскага права, то і герб ёй не належаў. Сённяшні герб быў зацверджаны адносна нядаўна – у 2000 годзе. У прынцыпе, герб Узды другі пасля Маладзечна, які атрымаў рэлігійнае значэнне ў сучаснай Беларусі.

Апосталы на гербе прадстаўлены з традыцыйнай атрыбутыкай, якая дапамагае іх адрозніць. Святы апостал Пётр у правай руцэ трымае ключы. Евангелле перадае нам, што Езус асабіста даў Пятру ўладу кіравання Касцёлам – супольнасцю вернікаў. А ключы – сімвал права вырашаць розныя справы. ***"Я дам табе ключы Валадарства Нябеснага, і што развяжаш на зямлі, тое будзе развязана ў небе"*** *(Мц 16, 19)*. Кніга ў левай руцэ св. Пятра прыпамінае нам, што ён з'яўляецца аўтарам двух пасланняў.

Апостал Павел традыцыйна трымае ў руцэ меч. Гэты сімвал мае два значэнні. Першае: сям'я апостала і сам св. Павел былі рымскімі грамадзянамі. Гэта давала вялікія правы ў Рымскай дзяржаве. У Дзеях святых апосталаў даведваемся, што да такога чалавека не можна было прымяніць цялесныя пакаранні. І людзі, якія бічавалі Паўла, перажылі шок, калі даведаліся, што здзекуюцца з рымскага грамадзяніна. Выкарыстоўваючы сваё грамадзянства, Павел прасіў суда Цэзара, бо не давярае мясцовым суддзям і мясцовым кіраўнікам. Незастаецца нічога, як толькі пасласць яго у Рым. У сталіцы нават пасля смяротнага прысуду Павел застаецца рымскім грамадзянінам і атрымлівае апошні прывілей – загінуць ад удару мяча.

Другое: апостал Павел – настаўнік веры і прапаведнік Слова Божага. Менавіта Слова Божае ён называе мячом. ***"Слова Божае жывое і дзейснае, вастрэйшае за ўсялякі меч двусечны. Яно пранікае аж но да падзелу душы і духа, суставаў і шпіку і здольнае судзіць думкі і намеры сэрца"*** *(Габ 4,12)*.

# Беларускія біскупы

**Што ты ведаеш пра беларускіх іерархаў? Правер свае веды ў новым тэсце "Каталіцкага Весніка".**

**1** Які галаўны ўбор на здымку ў біскупа Алега Буткевіча?



**А.** Мітра;
**Б.** Піуска;
**В.** Берэт.

**2** Старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі з'яўляецца:



**А.** Біскуп Аляксандр Кашкевіч;
**Б.** Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч;
**В.** Біскуп Казімір Велікаселец.

**3** Хто з гэтых беларускіх біскупаў манах-салезіянец?




**А.** Біскуп Аляксандр Яшэўскі;
**Б.** Біскуп Казімір Велікаселец;
**В.** Біскуп Юрый Касабуцкі.

**4** Колькі біскупаў служыць у Пінскай дыяцэзіі?



**А.** 1;
**Б.** 2;
**В.** 3.

**5** Хто з названых біскупаў спачатку навучаўся у Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, а пазней быў яе рэктарам?



**А.** Біскуп Юзаф Станеўскі;
**Б.** Біскуп Казімір Велікаселец;
**В.** Біскуп Аляксандр Кашкевіч.

**6** На гербе гэтага біскупа можна ўбачыць абраз Маці Божай Браслаўскай. А сам ён нарадзіўся ў Браславе:



**А.** Біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB;
**Б.** Біскуп Юрый Касабуцкі;
**В.** Біскуп Алег Буткевіч.

**7** Хто з беларускіх біскупаў нарадзіўся ў Польшчы?



**А.** Біскуп Антоні Дзям'янка;
**Б.** Біскуп Алег Буткевіч;
**В.** Біскуп Уладзіслаў Блін, біскуп Віцебскі на пенсіі.

**8** Выберыце толькі дапаможных біскупаў:



**А.** Біскуп Казімір Велікаселец, біскуп Юрый Касабуцкі, біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, біскуп Юзаф Станеўскі;
**Б.** Біскуп Казімір Велікаселец, біскуп Юрый Касабуцкі, біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, біскуп Антоні Дзям'янка;
**В.** Біскуп Юрый Касабуцкі, біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, біскуп Антоні Дзям'янка.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

**Правільныя адказы на стар. 16**



# Каляндар на май

**Май у Каталіцкім Касцёле асаблівым чынам прысвечаны ўшанаванню Найсвяцейшай Панны Марыі. На працягу ўсяго месяца вернікі збіраюцца ў касцёлах, а таксама каля каплічак і прыдарожных фігураў Маці Божай, каб разам маліцца, просячы заступніцтва Марыі.**

**3 мая – успамін апосталаў Філіпа і Якуба.**

У пераліку апосталаў Філіп з'яўляецца пятым. Ён быў вучнем святога Яна Хрысціцеля і паходзіў з Бэтсаіды, што на Генісарэцкім возеры, дзе працаваў рыбаком. Там яго сустрэў Езус і паклікаў у супольнасць дванаццаці апосталаў. Пасля ўваскрасення Хрыста Філіп спачатку вёў місіянерскую дзейнасць у сябе на радзіме, а пазней накіраваўся ў Фрыгію (Малая Азія), дзе навярнуў і ахрысціў шмат паганцаў. Там каля 80 г. ва ўзросце 87 гадоў апостал прыняў мучаніцкую смерць: быў прыбіты да крыжа і закіданы камянямі.

Якуб Меншы (Малодшы) быў сынам Клеафаса і Марыі, сястры Найсвяцейшай Панны Марыі. Розныя крыніцы называюць яго таксама першым біскупам Ерусаліму. У 62 г. першасвятар Анна асудзіў Якуба на смерць. Апостала скінулі са сценаў святыні, пасля чаго яго дабіў нейкі гарбар. Рэліквіі абодвух святых спачываюць у Рыме, у базыліцы Дванаццаці Апосталаў. Святыя Філіп і Якуб лічацца апекунамі капялюшнікаў, крамнікаў, гарбароў.

**10 мая – урачыстасць Унебаўшэсця Пана.**

Пасля свайго ўваскрасення Езус Хрыстус з'яўляўся сваім вучням, а праз 40 дзён на іх вачах узнёсся на неба з Аліўнай гары. Азначэнне "Унебаўшэсце Пана" паходзіць з апісання, пераказанага св. Лукой у "Дзеях Святых Апосталаў" (Дз 1, 9-11). Урачыстасць Унебаўшэсця Хрыста ранні Касцёл злучаў з таямніцай Спаслання Святога Духа на Апосталаў. Гісторыя літургіі ведае названую ўрачыстасць з IV ст. Гэта вялікае хрысціянскае свята, таму Касцёл заклікае ўсіх вернікаў устрымацца ад выканання цяжкай працы.

**16 мая – успамін св. Андрэя Баболі – апекуна Пінскай дыяцэзіі.**

Святога пакутніка за яго місіянерскую дзейнасць называюць "Апосталам Палесся" і "Пінскім апосталам". Святы Андрэй Баболя нарадзіўся ў 1591 годзе, а ў 1611-ым уступіў у Таварыства Езуса (езуітаў). Пасля навучання ў Віленскай езуіцкай акадэміі і святарскага пасвячэння быў накіраваны на душпастырскую працу. З 1636 года працаваў сярод уніятаў, узмацняючы іх у каталіцкай веры. Схоплены праваслаўнымі казакамі, ён быў жорстка закатаваны ў Янаве Палескім (сёння Іванава) 16 мая 1657 г.

**20 мая – Спасланне Святога Духа (Пяцідзясятніца).**

Гэта адно з самых старажытных святаў Каталіцкага Паўсюднага Касцёла. Дзень спаслання Духа Святога лічыцца пачаткам існавання Касцёла, днём яго нараджэння. Гэта быў хрост Касцёла, які нарадзіўся, выходзячы, каб абвяшчаць усім Евангелле. Калі Святы Дух сышоў на апосталаў у выглядзе вогненых языкоў, апосталы ўмацаваліся ў сваёй веры, атрымалі моц для сусветнага прапаведавання Евангелля. У гэты дзень людзі па традыцыі ўпрыгожваюць бярозавымі дрэўцамі касцёл, дамы, памяшканні, кватэры.

**27 мая – урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы.**

Вера ў адзінага Бога ў трох асобах з'яўляецца адным з самых характэрных элементаў хрысціянства. У ніякай іншай рэлігіі гэтая таямніца не выступае прадметам веры. Існаванне Тройцы – дагмат нашай веры. Мы б ніколі не дайшлі да яго толькі чалавечым розумам. Пра гэта нам аб'явіў Езус Хрыстус. Асобнае свята ў гонар Святой Тройцы ў літургіі з'явілася параўнальна позна, у адзінаццатым стагоддзі. У 1334 годзе Папа Ян XXI распаўсюдзіў яго на ўвесь Касцёл. Святы Руперт, ігумен з Отабойрэна (каля 1180 г.), ведае пра гэта свята і тлумачыць, чаму яно святкуецца ў наступную нядзелю пасля Пяцідзясятніцы: "Таму што неўзабаве пасля спаслання Святога Духа праўда Хрыста і хрост, які Ён загадаў удзяляць у імя Айца, і Сына, і Святога Духа, былі распаўсюджаны па ўсім свеце. Таму гэтая ўрачыстасць з'яўляецца прыгожым закрыццём цыклу выратавання".

**31 мая – урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста.**

Божае Цела – распаўсюджаная назва ўрачыстасці Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста, якая адзначаецца ў чацвер пасля свята Найсвяцейшай Тройцы, таму што ў чацвер Езус Хрыстус устанавіў сакрамант Эўхарыстыі (Вялікі Чацвер). У цэлебрацыі ўрачыстасці Божага Цела Касцёл складае падзяку Збаўцу за дар Найсвяцейшага Сакраманту, у якім Ён Сам прабывае са сваім народам. У гэты дзень або ў наступную пасля яго нядзелю адбываецца працэсія, у каторай Найсвяцейшы Сакрамант з пашанаю нясуць па вуліцах гарадоў і вёсак.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# На май прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Андрэй Кулік** *(Дзяркаўшчына)*, **кс. Генадзь Добрук**, **кс. Леанід Мозгель** *(Павяцце)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*;

**2 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Чэслаў Курэчка** *(Росіца)*;

**3 мая** – імяніны адзначаюць **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Аляксандр Жарнасек** *(Орша)*, **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Навапалацк)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*;

**5 мая** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Казімір Велікаселец**, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі;

**7 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Вацлаў Суткоўскі SAC** *(Расоны)*;

**8 мая** – імяніны адзначае **кс. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Лешэк Вітвіцкі** *(Слабодка)*, **кс. Павел Кнурэк** *(Віцебск)*;

**13 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Мёры)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**, **кс. Вячаслаў Барок** *(Віцебск)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*, **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*;

**14 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Дуброўна)*;

**15 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **кс. Генадзь Рэйшэль** *(Шаркаўшчына, Ёды)*, **кс. Ігнат Санюта**, **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*;

**16 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**17 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Кшыштаф Мянкіна** *(Мёры)*;

**19 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Казімір Акушка** *(Плюсы)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*;

**20 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*, **кс. Зянон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**21 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Томаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**22 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*, **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*;

**23 мая** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**;

**25 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**26 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Сымон Фарайтэр OMI** *(Шуміліна)*;

**28 мая** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;

**29 мая** – дзень нараджэння адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Ежы Вільк SCJ** *(Варапаева)*;

**30 мая** – імяніны адзначае **кс. Генадзь Добрук**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**;

**31 мая** – дзень нараджэння адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**, **кс. Францішак Кісель** (Полацк), **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***



# Яшчэ раз пра надзвычайную форму літургіі

**Паважаная рэдакцыя Каталіцкага Весніка!**

**Прачытаў у нумары ад 8.04.2018 г. артыкул "Касцёл і Брацтва Пія X" пад рубрыкай "Пытанне святару" і са здзіўленнем даведаўся, што нас, г.зн. вернікаў, прыхільнікаў надзвычайнай формы літургіі (а святар – таксама вернік) у Беларусі, аказваецца, вельмі мала або наогул няма (?!) Адчуваю сябе проста абавязаным заявіць, што МЫ ЎСЁ Ж ЁСЦЬ, і нас значна больш, чым здаецца!**

Проста ў выніку нездаровых адносінаў да сябе (пра што ніжэй) многія не адважваюцца дэклараваць свае духоўныя ўпадабанні. Працытую ўвесь сказ: "Аднак падаецца, што ў нашай краіне вельмі мала або наогул няма вернікаў, якія б адзначаліся такой прывязанасцю, беручы пад увагу, што Касцёл у Беларусі пасля II Ватыканскага Сабору без перашкодаў перайшоў да здзяйснення сакрамантаў на нацыянальных мовах".

Пачну з апошняга. Яшчэ з якімі перашкодамі! І далёка не на ўсіх нацыянальных мовах! І справа нават не ў тым, што ў Савецкім Саюзе Касцёл быў у няпростай сітуацыі, знаходзіўся ў пэўнай ізаляцыі ад таго, што адбывалася ў Ватыкане. Проста ў прыродзе доўгі час не існавала тэкстаў новай літургіі менавіта на беларускай мове, толькі польскія (маецца на ўвазе – на нашай тэрыторыі). А гэта спараджала міжнацыянальныя канфлікты паміж вернікамі (не толькі ў Беларусі парафіі дзяліліся праз розныя мовы) або спрыяла паланізацыі ўсіх католікаў, што вельмі негатыўна адбівалася на і без таго складанай пазіцыі Каталіцкага Касцёла, які ўспрымаўся як чужародная арганізацыя. А колькі праблемаў было і па сённяшні дзень застаецца з перакладамі літургічных тэкстаў! Кожны святар быў сам сабе перакладчыкам доўгі час, а зацверджаныя пераклады таксама, мякка кажучы, не ідэальныя. Але гэта зусім іншая тэма...

На працягу многіх гадоў пасля Сабору нават новая літургія паводле польскіх перакладаў служылася ў духу цалкам традыцыйным, тварам на Усход, з захаваннем усёй "старой" пабожнасці, дзякуючы якой вера захавалася ў атэістычныя часы. І калі б з самага дзяцінства маё асабістае знаёмства з каталіцкай верай, у якой я быў ахрышчаны, пачыналася не з Традыцыі, а з сучасных эксперыментаў над літургіяй (якім чамусьці паўсюль даецца "зялёнае святло"), **з упэўненасцю магу сцвердзіць, што святаром я б не стаў!** Ды й наўрад бы быў частым наведвальнікам касцёла... І не я адзін такі!

Калі на пачатку 90-х я ўступіў у каталіцкі ордэн у Польшчы, то ўпершыню сустрэўся з т. зв. новымі рухамі. Відавочна, што мая традыцыйная пабожнасць усё ж была і застаецца сапраўды каталіцкай, новае для мяне я ўспрымаў добразычліва – як права кожнага ў межах Каталіцкага Касцёла ісці найбольш адпаведным шляхам да Бога, хоць майму светаўспрыманню гэтае новае і не адпавядала. Але я моцна верыў, таму і вытрымаў, таму і прыняў сакрамант святарства, што традыцыйная лацінская літургія і духоўнасць дачакаюцца свайго часу. І сапраўды дачакаліся! Толькі для мяне стала вялізным шокам тое, што дакументы Бэнэдыкта XVI і Папскай камісіі Ecclesia Dei адносна традыцыйнай літургіі былі ўспрыняты многімі прадстаўнікамі духавенства варожа і агрэсіўна. Куды ж падзявалася дэклараваная каталіцкая паслухмянасць Найвышэйшаму Пантыфіку (у адсутнасці якой так горача абвінавачваюць арцыбіскупа Марселя Лефебра і яго паслядоўнікаў)? Для мяне гэта незразумела.

Калі Папа гаворыць: "Можна!", чаму многія святары далей працягваюць лічыць дасаборную святую Імшу чымсьці састарэлым, забароненым, шкодным, а супрацьстаянне ее адраджэнню – сваім "святым" абавязкам? Чым кіруюцца? Чаго баяцца? Я параіў бы ім проста лепш і больш унікнуць у сэнс "Summorum Pontificum" і каментарыі самога Бэнэдыкта XVI, а таксама "Universae Ecclesiae".

Паўтаруся: мы ёсць у Беларусі і не патрабуем нічога незаконнага, толькі практычнай рэалізацыі свайго права, пацверджанага Святым Айцом. Тое, што хтосьці можа не ўспрымаць традыцыйную духоўнасць як сваю, я разумею. Ды ніхто нікога да гэтага не прымушае. Але навошта знішчаць маральна (як ледзь не ворагаў народа) тых, для каго яна – як родная маці, што нараджае і захоўвае веру? Дзе элементарная хрысціянская любоў? Міжволі пачынаеш сумнявацца ў сапраўднасці і хрысціянскасці новай пабожнасці, якая навязваецца вернікам, каб толькі яны не зацікавіліся Традыцыяй, дзякуючы якой, аднак, Касцёл праіснаваў столькі стагоддзяў, і якая і сёння многім можа дапамагчы адшукаць свой шлях да Бога. Як апраўдаюцца перад Ім тыя, хто ставіцца да традыцыяналістаў як да католікаў горшага гатунку, з якімі нязварта лічыцца, і спіхвае іх на перыферыю каталіцкага жыцця і супольнасці Касцёла, якому яны шмат маглі б даць карысна, заняўшы больш адпаведнае месца...

*З павагай,*
*а. Міхал Ермашкевіч OP*

**P.S.** Вышэйнапісанае датычыць не столькі шаноўнага аўтара артыкула, колькі агульнай сітуацыі, замоўчваць якую лічу няправільным.

# Як Касцёл ставіцца да ведычных ведаў?

*"Хвала Хрысту! Раскажыце, калі ласка, як Касцёл ставіцца да ведычных ведаў і заснаваных на іх вучэнняў. У маёй працы пры падборы колеру выкарыстоўваюць дадзеныя, заснаваныя на вучэнні Тантра-джйоціш. Ці магу я выкарыстаць матэрыялы, заснаваныя на гэтай тэорыі? Дзякуй".*
*Алена*

**На пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

– Хвала навекі! Індуізм з'яўляецца вялікай рэлігіяй індыйскага субкантынента. Гэта рэлігія складаецца з комплексу вераванняў, супольнаю асновaю якіх ёсць прызнанне святымі кнігамі Ведаў, і сістэма кастаў, каторая ў мінулым моцна падкрэслівалася. Індуізм пры ўмове наяўнасці кастаў практычна можа існаваць толькі ў Індыі. Ці таксама будыйская дактрына, што з'яўляецца рэформаванай часткай брахманізму і паказвае самастойны шлях да дасягнення дасканаласці і вызвалення.

Што ж да вучэння тантра-джйоціш, то гэта ведычная астралогія і астраномія. Касцёл ставіцца з пашанай да розных вызнаўцаў іншых рэлігій, але хрысціянін не павінен займацца гэтым. Чаму?

Таму што астралогія ўвогуле супярэчыць біблійнаму навучанню прынамсі ў двух пытаннях: падтрымлівае веру ў штосьці іншае, а не ў Бога, а таксама з'яўляецца формай прасла́ўлення. Такія практыкі разыходзяцца з хрысціянскай верай.

Немагчыма акрэсліць Божую волю дзякуючы гараскопам. Як хрысціяне мы павінны чытаць Біблію і маліцца да Бога, каб атрымаць мудрасць і падказкі напрамкаў дзейнасці. Карыстанне такога кшталту рэчамі з'яўляецца парушэннем Божых спосабаў камунікаваць са сваімі дзецьмі. Тут ёсць вялікая небяспека таго, што пэўныя жэсты і практыкаванні самі па сабе выступаюць ідалапаклонніцтвам і адкрываюць сэрца чалавека на дзеянне злога духа ў нашым жыцці. Натуральна, што індуісцкія фундаменталісты выкарыстоўваюць розныя практыкі сваёй веры ў мэтах праўвядзення ідэалагічнай экспансіі, каб умацаваць свой рэлігійны ўплыў, асабліва ў еўрапейскіх краінах. Сучаснаму чалавеку лягчэй прыняць экзатычныя звычаі і рытуалы, чым Евангелле, якое заклікае да навяртання.

Беражы Вас Бог!




# Пытанне святару: падзел католікаў і праваслаўных

*Хвала Хрысту! Дзве сястры, 83-ох і 84-ох гадоў, спрачаюцца і просяць адказаць на наступнае пытанне: "Хто ад каго адкалоўся: католікі ад праваслаўных ці наадварот?"*
*Сафія з Гродна*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC, Росіца:**

– Апостал Павел навучае, што Касцёл – гэта містычнае Цела Хрыста. Кожны чалавек – гэта частка цела, неабходная для функцыянавання арганізма. Галава – гэта Сам Хрыстос. Калі мы прытрымліваемся правільнага разумення, што такое супольнасць людзей-вернікаў, то павінна памятаць і нашае пытанне. Не можа Цела Хрыстовае быць падзеленым! Таму ўсе, хто верыць у Хрыста – і католікі, і праваслаўныя, і пратэстанты, – належаць да аднаго Цела.

Падзел існуе тут, на зямлі. Гэта мы, вернікі, падзяліліся. Вялікі падзел 1054 года, калі хрысціянства падзялілася на дзве вялікія часткі – усходнюю і заходнюю, мае шмат розных прычын, у тым ліку і палітычных.

Пытанне "хто ад каго аддзяліўся" мае ў сабе ўжо тэзу, што хтосьці вінаваты. А праўда ў тым, што адказнасць за раскол нясуць як усходнія, так і заходнія іерархі. Таму кожны з нас, таксама і католікі, закліканыя маліцца за адзінства хрысціянаў, а не шукаць магчымасці падтрымаць сваё перакананне, што я маю рацыю, а хтосьці вінаваты.

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



***Ксёндз-пробашч Сяргей Сурыновіч*** *13 красавіка адзначае дзень народзінаў.*

*Шаноўны ксёндз Сяргей! Вы нястомна і самаахвярна будуеце духоўны падмурак нашай парафіяльнай супольнасці, праз абвяшчэнне слова Божага ведзяце нас па дарозе Праўды. Божага натхнення Вам у штодзённых справах, моцы і мужнасці ў выпрабаваннях! Няхай заступніцтва Багародзіцы напоўніць радасцю і супакоем кожны дзень Вашага святарскага жыцця!*

***Вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі***

## Сардэчна віншуем!

*Сардэчна віншуем з нагоды Дня нараджэння нашага шаноўнага і ўсімі любімага* ***ксяндза Сяргея Сурыновіча****!*

*Жадаем Вам, ксёндз Сяргей, здароўя, поспехаў, плёну ў працы на карысць парафіі, духоўных і фізічных сілаў, дароў Духа Святога, апекі Маці Божай і любові! Няхай Пан Бог дапамагае Вам ажыццявіць Вашы мары і задумкі! Шчыра дзякуем Вам за ахвярную працу, за добрае і чулае сэрца, за прыгожы прыклад веры!*

*Дзякуем Вашым бацькам за сына-святара і зычым ім здароўя, Божага благаслаўлення і патрэбных ласкаў!*

***Удзячныя вернікі парафіі Святога Юзафа ў аг. Друйск***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*13 красавіка – Дзень нараджэння ў нашага* ***ксяндза Сяргея Сурыновіча****.*

*Шаноўны ксёндз Сяргей! З нагоды Дня нараджэння прыміце букет самых шчырых і найлепшых пажаданняў! Няхай кожны дзень будзе шчаслівым і благаслаўлёным, хай сэрца напаўняюць радасць, любоў і супакой, побач няхай заўжды будуць шчырыя вернікі і добразычлівыя людзі! Няхай Святы Дух адорвае Вас, Маці Божая атуляе апекай! Душпастырская паслуга хай прыносіць Вам радасць, задавальненне і плён, а агеньчык аптымізму ніколі не гасне ў Вашым сэрцы!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Друі (Браслаўскі р-н)***

## Віншуем!



*Віншуем* ***ксяндза Генадзя Добрука*** *з Днём нараджэння, які ён адзначае 26 красавіка.*

*Цяпер кс. Генадзь працуе у Гродзенскай дыяцэзіі, але мы яго памятаем, успамінаем у малітвах і ніколі не забудзем. Жадаем кс. Генадзю, каб яго служэнне Богу і людзям прыносіла добры плён, а яго святарства заўсёды было пад апекай Маці Божай. Дзякуем за ахвярную і адданую працу ў нашай парафіі, за далучэнне моладзі, дзяцей, усіх парафіянаў да Бога. Няхай Усемагутны Бог дапамагае яму ў ажыццяўленні жыццёвых планаў, а Маці Божая няспынна моліцца за добрага і любімага нашага святара перад Божым тронам, ахінае сваёй апекай, і прытуляе да свайго Матчынага сэрца.*

***Аляксандр Сінкевіч,***
*ад імя ўсіх вернікаў Мёрскай парафіі Імя Унебаўзяцця НМП і св. Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка*

## Шчыра віншуем!



*Шчыра віншуем* ***ксяндза Генадзя Добрука*** *з Днём нараджэння (26 красавіка)!*

*Жадаем Вам, ксёндз Генадзь, плёну ў працы на Божай ніве, у душпастырскай дзейнасці, моцнага здароўя і аптымізму!*

***З павагай, вернікі Мёрскай парафіі***

## Паважаны ксёндз Валеры Орсік!



*Адусяго сэрца віншуем Вас з Днём нараджэння!*

*Жадаем здароўя, поспехаў, сілы, трываласці ў душпастырскай працы! Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя мае Вас у Сваёй апецы, хай Дух Святы ўдзяляе неабходныя ласкі, а Пан Езус благаслаўляе!*

***Сям'я Спургяш (г. Бярозаўка, Лідскі р-н)***

## Хвала Хрысту!



*9 красавіка ў* ***сястры Тацяны Данч****, якая працуе ў Варапаеўскай парафіі, быў Дзень нараджэння.*

*З вялікай удзячнасцю ад шчырага сэрца віншуем яе з гэтай нагоды! Жадаем моцнага здароўя, аптымізму, людской добразычлівасці. Няхай Маці Божая заўсёды падтрымлівае і абараняе, святая Цэцылія надае духоўныя і творчыя сілы ў працы, а радаснае свята Уваскрослага Хрыста асвячае нябесным цяплом Божай Любові і Міласэрнасці!*

*Мы нястомна молімся за Вас, сястра Тацяна, і спадзяёмся на хуткую сустрэчу!*

***Парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!

*9 красавіка* ***сястра Тацяна Данч*** *адзначала Дзень нараджэння.*

*Сардэчна віншуем Вас, сястра Тацяна, і жадаем моцнага здароўя, сілы, радасці, супакою і доўгіх гадоў жыцця! Мы Вас любім і паважаем! Няхай добры Бог адорвае Вас благаслаўленнем, ахоўвае ад бедаў і дапамагае ва ўсіх Вашых справах, а Маці Божая нястомна атуляе сваёй апекай! Жывіце доўга і шчасліва!*

*Таксама жадаем моцнага здароўя маме сястры Тацяны Алене, якая выхавала дачушку і адправіла на служэнне Богу і людзям!*

***Вернікі Глыбоцкай парафіі***

## Шчыра віншуем!



*Шчыра віншуем* ***ксяндза Марата Казлоўскага****, пробашча касцёла Святой Ганны ў Мосары, з імянінамі (25 красавіка)!*

*Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены шчасцем і супакоем. Нябесны Заступнік хай заўсёды дапамагае Вам у жыцці і ў выкананні душпастырскай паслугі! Моцнага Вам здароўя, мудрасці, Божага натхнення для вернага служэння Касцёлу!*

***Часлава Лаўрыновіч і Яніна Шыкуць***

## Шчыра віншуем!



*13 мая адзначае дзень свайго нараджэння* ***ксёндз Андрэй Таўрук****. Шчыра віншуем ксяндза Андрэя з нагоды Дня нараджэння і перасылаем букет найпрыгажэйшых пажаданняў: моцы Святога Духа, штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шмат сіл у кіраванні Божым людам і шчодрага плёну на Божай ніве. Нізка кланяемся і дзякуем нашаму вікарыю.*

***Аляксандр Сінкевіч,***
*ад імя ўсіх вернікаў Мёрскай парафіі Імя Унебаўзяцця НМП і св. Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка*

## Хвала Хрысту!



*Паважанаму* ***ксяндзу Віктару Місевічу*** *з нагоды Велікодных святаў ад шчырага сэрца жадаем усіх ласкаў ад Уваскрослага Хрыста! Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены Божым благаслаўленнем, святлом Святога Духа і апекай Найсвяцейшай Маці з Лідскай Фары!*

*Няхай няшчасці абходзяць Вас, а радасць, шчасце і супакой заўсёды гасцяць у Вашым сэрцы!*

*Гэтыя пажаданні таксама і для Вашых родных: таты, мамы і сястры з сям'ёй!*

*Шчасці, Божа!*

***Тэрэса Зяновіч з сям'ёй***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны* ***ксёндз Юрый Бараўнёў****! Прыміце нашы віншаванні з нагоды імянінаў (23 красавіка)! З Днём Анёла Вас віншуем і ад душы жадаем здароўя і дабра, каб заўсёды былі сілы служыць Богу і людзям! Хай вера Вас узмацняе, хай кожны дзень прыносіць радасць!*

***Вернікі з Крулеўшчыны, Порпліšча, Барсукоў (Докшыцкі р-н)***

## Хвала Хрысту!

*23 красавіка адзначае імяніны паважаны* ***ксёндз Юрый Жаўняровіч****.*

*Мы шчыра віншуем яго з гэтай нагоды і жадаем плёну ў душпастырскай працы, добрага здароўя, Божай ласкі, дароў Духа Святога. Няхай святы заступнік Юрый засцерагае ад няшчасцяў і дапамагае ў кожную хвіліну жыцця! Няхай добры Бог адорвае благаслаўленнем, Езус Хрыстус вядзе за сабой, а Маці Божая і анёл-ахоўнік нястомна трымаюць у сваёй апецы!*

*Дзякуем шаноўнаму ксяндзу Юрыю за нязгасны запал у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям!*

***Удзячныя вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа (Браслаўскі р-н)***

## Віншуем!

*Шаноўны* ***ксёндз Ежы Вільк****! Шчыра віншуем Вас з імянінамі і з Днём нараджэння!*

*Жадаем Вам любові Хрыстовай, дароў Святога Духа, супакою, апекі Маці Божай, здароўя, святочнага ўзнёслага настрою! Хай Ваша вера, моцная, жывая, малітвы, глыбіня казанняў на лепшае нас натхняе!*

*Жадаем поспехаў у Вашай нялёгкай працы, Божай дапамогі ва ўсіх справах, натхнення для далейшага плённага служэння Хрысту і Святому Касцёлу!*

***Удзячныя вернікі парафіі Святога Міхала Арханёла з Варапаева***



# Пытанне святару: споведзь і забытыя грахі

*"Хвала Хрысту! Скажыце, калі ласка, калі я быў у касцёле на споведзі, здаецца, пра ўсе грахі расказаў, якія памятаў. А потым дома ўспомніў: забыўся сказаць, што глядзеў эротыку і парнаграфію. Але на споведзі сказаў, што пралюбадзейнічаў у думках. Скажыце, трэба на другі дзень ісці зноў на споведзь і вызнаваць гэтыя грахі? Што рабіць? Паколькі я кожную нядзелю хаджу на Імшу ў касцёл, ці магу прыступаць да Камуніі, маючы такі грэх?"*

*Юрый*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Шаноўны Юрый! Дзякуй за пытанне, якое датычыць важнай рэчаіснасці жыцця верніка і яго адносін з Богам. Касцёл безупынна абвяшчае праўду пра Божую міласэрнасць, якую паказвае Евангелле. Споведзь – гэта найперш і перадусім сустрэча з Богам, які любіць чалавека і прагне яго збаўлення. Са свайго боку кожны вернік, які спавядаецца, прагне, каб споведзь прынесла плён. Сутнасць споведзі – у сустрэчы з міласэрным Езусам, а сама споведзь – гэта сакрамант міласэрнасці, таму нельга празмерна экспанаваць асабістае намаганне верніка і канцэнтравацца на ім, забываючы пра найважнейшае – дар самога Бога, Які прагне прабачыць, умацаваць і даць Сябе, перш за ўсё ў святой Камуніі.

### Забытыя грахі

Учасе споведзі неабходна назваць усе цяжкія грахі, якія яшчэ не былі адпушчаныя (пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 988, § 1). Вызнанне грахоў павінна быць шчырым і поўным, таму перад споведдзю робіцца рахунак сумлення, дзякуючы якому пеніцэнт належным чынам рыхтуецца да сустрэчы з Хрыстом у сакраманце паяднання. Паколькі рахунак сумлення і сама споведзь звязаны з памяццю, то можа здарыцца так, што хтосьці забудзецца нейкі грэх і не зможа яго вызнаць (проста не памятае), выканаўшы пры гэтым усе пяць умоў, пра якія кажа катэхізіс. У такім выпадку споведзь сапраўдная і пеніцэнт не мае патрэбы вяртацца да канфесіянала ні адразу пасля споведзі, ні на наступны дзень. Падчас споведзі Бог прабачае ўсе грахі – вызнаныя і забытыя, таму дарога да з'яднання з Хрыстом у Святой Камуніі адкрытая. Карысным будзе пры наступнай споведзі вызнаць таксама і забытыя грахі (некаторыя вернікі спавядаюцца рэгулярна, раз на два тыдні ці раз на месяц, іншыя радзей).

### Няшчырая споведзь

Дзеля ўдакладнення трэба дадаць, што іншая сітуацыя ў выпадку няшчырасці і затойвання грахоў. Калі вернік наўмысна не вызнае цяжкія грахі ці спавядаецца з іх няшчыра і няпоўна (напр., называе чыны так, каб святар не зразумеў, што гэта цяжкія грахі), то тады ён ставіць бар'ер Божай Міласэрнасці, а сама споведзь можа стаць не толькі несапраўднай, але і святатацкай, што ў сваю чаргу з'яўляецца грахом.

Сказанае вышэй датычыць усіх грахоў, таму можа быць адказам таксама на пытанне Юрыя пра парнаграфію. Зацікаўленыя больш падрабязнай інфармацыяй на дадзеную тэму могуць звярнуцца да Катэхізіса Каталіцкага Касцёла (напр., глядзі http://ccconline.ru/#2354), які дапамагае католіку глыбей пазнаваць як праўды веры, так і прынцыпы хрысціянскага жыцця.

### Веліч споведзі

Разважаючы пра споведзь, варта звярнуцца да слоў Езуса Хрыста, Які аб'яўляўся святой Фаўстыне Кавальскай: "Дачка, калі прыступаеш да святой споведзі, да гэтай крыніцы Маёй міласэрнасці, на тваю душу заўсёды сплываюць Мая кроў і вада, якія выплылі з Майго сэрца і ўзвышаюць тваю душу. Кожны раз, набліжаючыся да канфесіянала, з вялікім даверам цалкам пагружайся ў Маю міласэрнасць, каб Я мог выліць на тваю душу шчодрасць Сваёй ласкі. Калі ты прыходзіш на споведзь, ведай, што Я Сам чакаю цябе ў канфесіянале; Я толькі засланяюся святаром, але Сам дзейнічаю ў душы. Тут мізэрнасць душы сустракаецца з Богам міласэрнасці. Скажы душам, што з гэтай крыніцы міласэрнасці душы чэрпаюць ласкі толькі начыннем даверу. Калі іх давер будзе вялікі, Маёй шчодрасці не будзе межаў. Струмені Маёй ласкі заліваюць пакорныя душы. Ганарлівыя – заўсёды ў бядзе і ўбостве, бо Мая ласка адварочваецца ад іх да пакорных душаў" (Дзённік, 1602).

На заканчэнне раю Юрыю і чытачам "Каталіцкага Весніка" ў сумнеўных сітуацыях звяртацца па дапамогу да сваіх душпастыраў. Можна гэта зрабіць з нагоды споведзі або дамовіўшыся на духоўную размову. Добра таксама мець сталага спаведніка, які, асветлены Духам Святым, можа дапамагчы верніку ісці па ўласцівай дарозе і правільна фармаваць сваё сумленне. Запэўніваючы пра заступніцтва перад Богам за чытачоў "Каталіцкага Весніка", сам таксама прашу аб малітве ў маёй інтэнцыі.

# Возможно ли, что Бог простил Иуду?

**Святой Августин назвал вину Адама "счастливой", потому что он дал нам такого Спасителя. А грех Иуды – "счастливый"? Что говорит Католическая Церковь об Иуде? Возможно ли, что милосердный Бог простил его? Где находится его душа: в раю или аду?**

Мы не имеем права судить о том, осужден человек или спасен. Но мы можем размышлять о поступках человека, давать этим поступкам нравственную оценку. Набрав в интернет-поисковике имя Иуды Искариота, можно найти массу весьма интересных историй, но в подавляющем большинстве случаев это не исторические сведения, а легенды. Какие-то появились в V, какие-то в X веке, но к жизни апостолов исторического отношения они не имеют. Давайте рассмотрим только то, что определено современной богословской наукой как подлинные сведения.

Что известно о жизни Иуды Искариота? Об апостоле-предателе Иуде Искариоте сохранились такие сведения: отца Иуды Искариота звали Симон (Ин 6,71). После избрания апостолом Иуда Искарионт являлся казначеем и показал себя нечестным хранителем. Когда одна женщина вылила на ноги Христу благовонное миро и отерла ноги волосами, Иуда брюзжал: "Для чего бы не продать это миро за триста динариев и не раздать нищим?" Апостол Иоанн иронично замечает: "Сказал же он это не потому, чтобы заботился о нищих, но потому, что был вор. Он имел при себе денежный ящик и носил, что туда опускали" (Мф 12, 5-6). После того, как на совещании у Каиафы было решено "взять Иисуса хитростью" (Мф 26,4), но так, "чтобы не сделалось возмущения в народе" (Мф 26,5), является Иуда Искариот и предлагает предать Христа.

Накануне праздника Пасхи Иуда Искариот пришел к первосвященникам и поинтересовался, что же он получит, если предаст Христа. За услугу Иуды Искариота в виде предательства первосвященники пообещали ему тридцать сребреников (Мф 26,15), крупную по тем временам сумму. "И с того времени он искал удобного случая предать Его" (Мф 26,16).

Во время Тайной вечери Иисус Христос объявляет Своим ученикам о том, что один из них предаст Его. После этих слов, указывая на то, что предательство совершит именно Иуда Искариот, Спаситель подал ему обмакнутый кусок хлеба со словами "что делаешь, делай скорее" (Ин 13,27). Иуда Искариот, "приняв кусок, тотчас вышел; а была ночь" (Ин 13,30). Затем Иуда привел в Гефсиманский сад вооруженную толпу, которой предварительно сказал: "Кого я поцелую, Тот и есть, возьмите Его" (Мф 26,48). В темную палестинскую ночь взволнованный Иуда подходит к Иисусу – и целует Его. Это знак, и уже ничего нельзя будет переиграть. Но спасти душу Иуды еще можно. И Иисус спрашивает: "Друг, для чего ты пришел?" (Мф 26,50). После этого поцелуя Спаситель спросил: "Иуда! Целованием ли предаешь Сына Человеческого?" (Лк 22,48). После того, когда Иуда Искариот узнал, что Иисус Христос осужден синедрионом, он, "раскаявшись, возвратил тридцать сребреников первосвященникам и старейшинам" (Мф 27,3). Возвратил он эти деньги со словами "согрешил я, предав кровь невинную" (Мф 27,4). Они сказали ему в ответ, что ничего уже изменить не могут. Поступок, совершенный Иудой добровольно, их не касается. Тогда, "бросив сребреники в храме, он вышел, пошел и удавился" (Мф 27,5). Святой Августин пишет: "Удавление Иуды произошло, должно быть, чрез несколько часов после осуждения Христа; нет никакого основания думать, что это случилось после воскресения Христа" (Св. Августин, "О согласии евангелистов", III, VII: 28 сл.).

Святая Екатерина Сиенская говорит: "Все исходит от любви, все устроено ко спасению человека, что Бог ни делает – все ради этого" (Диалоги 4,138). Похоже, призвав следовать за Собою такого человека, Христос дает ему возможность перевоспитаться и освободиться от греховных качеств.

Что чувствовал Иуда, находясь рядом со Спасителем? В душе Иуды, несомненно, происходили какие-то процессы. Находиться рядом с Иисусом, воплощенной Любовью, и оставаться прежним – жадным и мелким – невозможно. Пусть, предав Иисуса, Иуда проиграл эту схватку со своими страстями. Пусть он не нашел в себе силы покаяться, как нашел Петр, трижды отрекшийся от Христа. Однако мы знаем, что и жить, заглушив в себе голос совести, Иуда не смог. Бросив деньги, полученные за предательство, он ушел и повесился...

Мы не знаем участь Иуды. Иисус сказал о нем: "Горе тому человеку, которым Сын Человеческий предается, лучше было бы этому человеку не родиться" (Мф 26,24). Но это не значит, что Иуда в аду. В течение двадцати веков своей истории Церковь канонизировала тысячи святых, но никогда торжественно не заявляла, что кто-то осуждён и находится в аду. Для того, чтобы отправиться в ад, нужны действительно серьёзные причины. Ни один человек в мире, даже Папа, не может сказать, действительно ли грешник сознательно оскорбил Бога и отверг Его навсегда. Только Бог может судить. Именно поэтому Церковь в своем учении никогда официально не заявляла, находится ли тот или иной человек в аду.

Вернёмся теперь к первой части вопроса. На Литургии навечерия Пасхи поётся древний пасхальный гимн, который по-латыни называется "Exultet". Отец Иакинф Дестивель в одной из своих проповедей сказал, что "в этом гимне находится самое скандальное выражение христианского богословия: felix culpa, что в переводе с латинского означает "счастливая вина". Каждый год в пасхальную ночь мы поем: "О, счастливая вина, заслужившая столь славного Искупителя. О воистину необходимый грех Адама, который изглажен смертью Христа!" Да, как это ни парадоксально звучит для нас, с точки зрения Бога грех Адама был необходимым, а его вина – счастливая! Без греха Адама Сын Божий, может быть, не умер бы за нас, без этой счастливой вины мы бы не знали, как велика любовь Бога к нам!

Так и в нашей жизни: мы часто чувствуем себя угнетенными нашими грехами, нашими ошибками, нашими сомнениями, нашими недостатками. Но с точки зрения Бога, эти грехи, эти слабости – счастливые, они даже необходимы..." (Проповедь 24.04.2011, Санкт-Петербург).

*Радио Ватикана*

# Вялікдзень ці Вельканоц?..



**Вялікдзень ці Вельканоц?.. Чаму так называецца свята Уваскрасення нашага Пана Езуса Хрыста? Радасным "Аллелюя!" мы вызнаём праўду пра тое, што Езус жыве!**

**Даната Сярогіна**, *Глыбокае*

Гэтае пытанне я задала сабе, калі ішла ў касцёл на Пасхальную Вігілію ў Вялікую Суботу. А ў памяці паўставалі карціны з далёкага дзяцінства…

Як мама (а раней і наша бабуля Анэта) старанна ўсё прыбіралі ў хаце, бялілі рускую печ, крухмалілі сурвэткі, фіранкі, мылі столь, бялілі дрэўцы ў садзе. А мы, малыя дзеці, вельмі чакалі той пары, калі мама выпякала булкі, кулічы з разынкамі і макам, фарбавала яйкі, а тата вэндзіў каўбасы, мяса, якія некалькі тыдняў "сіверылі" пад франтонам хаты. Гэта азначала, што хутка-хутка будзе Wielkanoc.

Перад Вялікаднем да нас з вёскі прыходзілі і прыязджалі на роварах сваякі, каб заначаваць, а раніцай ісці ў касцёл (бо ў тыя часы навакольныя касцёлы былі зачыненыя і вернікі з'язджаліся ў Глыбокае, у касцёл Святой Тройцы, які заўсёды дзейнічаў, нават у часы ваяўнічага атэізму).

Бацькі ішлі на Вельканоцную службу, а мы, малыя, клаліся спаць і чакалі, каб хутчэй настала раніца, калі бацькі прынясуць "свянцонку" і мы ўсе разам, прыгожа апранутыя, сядзем за святочны стол, каб падзяліцца яйкам, і, нарэшце, можна будзе ўключыць радыёлу, каб паслухаць любімыя пласцінкі…

Сёлета, калі была на Трыдууме, з замілаваннем назірала за дзецьмі, якіх шмат прысутнічала ў храме (у 50-80-ыя гады XX стагоддзя моладзь употайкі хадзіла ў касцёл ці царкву, бо было забаронена). Прыгожае ўбранне нашай святыні, цудоўныя дэкарацыі, якія сімвалізуюць апошнія дні зямнога жыцця Езуса Хрыста, шмат жывых кветак і галоўнае – мнагамнога вернікаў (у гэтым годзе, як ніколі, было шмат мужчын і юнакоў – гэта заўважыла не толькі я). Узнёслае казанне прамоўцы святар, кожнае слова аддавалася ў сэрцы, вяртаючы ў цудоўныя гады дзяцінства… Святочная працэсія па плошчы… Побач мама, любая мамачка (дай Бог ёй здароўя на доўгія гады)… У начным небе гучыць "Аллелюя, аллелюя!" Дзякуй Богу, што насталі часы, калі мы ўсе разам молімся за нашыя сем'і, за наш родны горад, нашу краіну.

Маё пакаленне вырасла на традыцыях, якія зберaглі нашы продкі. Дык няхай жа нашы дзеці і ўнукі прадаўжаюць род, сумеюць зберагчы самыя галоўныя каштоўнасці сям'і: працавітасць, паважлівыя адносіны адзін да аднаго, але галоўнае – хрысціянскую веру… Як сказаў рускі пісьменнік А. Салжаніцын, "сям'я – гэта мост паміж мінулым і будучым, жывое звяно гісторыі… Сёння ў нашых сілах аднавіць страчаную сувязь пакаленняў, уваскрасіць забытыя традыцыі… Мы можам, а таму абавязаныя гэта зрабіць, каб пабудаваць новую краіну на падмурку, які заклалі нашы продкі, а атрыманыя веды, як бясцэнны скарб, перадаць нашчадкам".



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**22 красавіка 2018 г.**

***Ян 10, 11-18***

Езус – Добры Пастыр. Ён добраахвотнаахвяраваў сваё жыццё, каб нас выратаваць. Ён змагаўся за нас. Ён перамог шатана, а таксама смерць і грэх. Ён уваскрос і мае ўладу ўваскрашаць. Дзякуючы сваёй паслухмянасці аж да крыжовай смерці Езус аддзячыў Айцу за нашы грахі і мае ўладу дараваць.

*– Ці памятаю, што Касцёл – гэта Аўчарня, якую стварыў Езус?*

*–Ціразумею,штоўсупольнасці Касцёла Езус нас збаўляе і вядзе да вечнага жыцця?*

*– Ці цаню прысутнасць Бога ў супольнасці Касцёла?*

*– Ці іду за сваім Пастырам?*

*– Ці не лічу, што спраўлюся сам без Езуса і Касцёла?*

*– Ці слухаю я Яго голас?*

*– Ці слухаю вучэнне Касцёла?*

*– Ці разважаю над Біблііяй, каб знайсці Божую волю?*

*– Ці звяраю сваё разуменне Бібліі і хрысціянскага вучэння з вучэннем Касцёла?*

*– Ці падпарадкоўваюся вучэнню Касцёла, створанага Хрыстом?*

**29 красавіка 2018 г.**

***Ян 15, 1-8***

Прыгожы вобраз вінаграднай лазы і галінак – гэта вобраз Касцёла, які жыве дзякуючы Езусу. А мы жывём, расцём і развіваемся дзякуючы соку вінаграднай лазы. Плённасць хрысціянскага жыцця залежыць ад еднасці з Езусам. Ён сярод нас, і калі мы ў еднасці з Ім, то Ён прысутнічае ў кожным з нас. Спробы пабудовы плённасці свайго жыцця і жыцця Касцёла без Езуса заканчацца правалам. Толькі Яго навука нас ачышчае і робіць плённымі. Калі мы ў еднасці з Ім, то можам спадзявацца на Яго дапамогу ў патрэбе.

*– Ці жыву я ў еднасці з Хрыстом?*

*– Ці не іду супраць Яго навукі, здзяйсняючы смяротны грэх і жывучы з гэтым грахом?*

*– Ці стараюся пазбегнуць нават маленькіх недасканаласцяў і штодзённых грахоў, каб быць бліжэй Езуса?*

*– Ці разумею, што існуе сувязь паміж паслухмянасцю Яго навуцы і маім трываннем у еднасці з Ім?*

*– Ці не падманваю сам сябе, жывучы ў пераканнанні, што паслухмянасць Богу – гэта не асноўнае, а так то я люблю Бога, адчуваю да Яго станоўчыя эмоцыі?*

*– Ці дазваляю я Божай праўдзе ачышчаць мяне і перамяняць?*

*– Ці не хачу сам перамяніць Бога?*

*– Ці прашу Бога на малітве, каб Яго справы здзяйсняліся ў маім жыцці?*

*– Ці не хачу сам усё зрабіць?*

*– Ці размаўляю з Богам на малітве пра свае духоўныя справы?*

*– Ці шукаю Яго волі?*

*– Ці малюся і ці давяраю Богу справы, якія лічу цяжкімі і невырашальнымі?*

*– Ці малюся за малыя штодзённыя справы?*

**6 мая 2018 г.**

***Ян 15, 9-17***

Еднасць, якая аб'ядноўвае лазу і вінаградныя галінкі, – гэта еднасць жыцця. Крыніца нашага жыцця ў Езусе. Ён штодра адорвае нас любоўю. Гэтым збаўчым сокам любові, які нас ажыўляе, з'яўляецца кроў Хрыста, пралітая за нас на крыжы. Прыклад дасканалай любові аж да ахвяравання жыцця. А таксама прыклад паслухмянасці волі Айца. Езус кліча нас трываць у Яго любові. Гэта становіцца магчымым, калі мы выконваем Яго запаведзі і наследуем Яго прыклад любові і паслухмянасці. Узаемная любоў паміж галінкамі вінаграднай лазы – гэта ўдакладненая запаведзь Езуса. Праз гэту любоў раскрываецца і наша плённасць. Супольнасць, якая жыве згодна з запаведзямі Езуса, прыносіць плён і можа спадзявацца на Яго падтрымку. У гэтым духоўны сакрэт паспяховай супольнасці.

*– Ці разумею, што я з'яднаны з Езусам повяззю любові?*

*– Ці вучуся ад Яго любіць?*

*– Ці люблю бліжніх?*

*– Ці хачу любіць?*

*– Ці будую сужэнства, сям'ю і парафію паводле Хрыстовага запавету любові?*

*– Ці не хачу пабудаваць Касцёл, у якім няма любові?*

*– Якіх плёнаў шукаю я ў Касцёле?*

*– Ці разумею, што плёнам жыцця ў еднасці з Богам з'яўляецца ўзаемная любоў?*

*– Ці з'яўляюцца супольнасці, даякіхяналежу,супольнасцямі любові?*

*– Чаго ім не хапае, каб стаць такімі?*

*– Што недасканалае ва ўзаемнай любові ў маім сужэнстве, сям'і, парафіі?*

*– Што я магу зрабіць, каб гэта памяняць?*

*– Дзе і як я магу павялічыць любоў маёй супольнасці?*

*– Што я мушу ў сабе памяняць, каб гэта супольнасць была сапраўднай супольнасцю любові?*

**13 мая 2018 г.**

***Ян 17, 11-19***

Езус моліцца за сваіх вучняў – апосталаў. Гэта для нас каштоўны ўрок, гэтым трэба даражыць, бо Езус пра гэта просіць Айца. Перадусім патрэбна еднасць паміж вучнямі, апосталамі і іх пераемнікамі. Такая еднасць, якая ёсць паміж Айцом і Сынам. Еднасць – гэта вельмі важная частка ўзаемнай любові. Асабліва яна патрэбная ў хвіліны выпрабавання. Хрысціянскае жыццё – гэта адвечная вайна паміж дабром і злом. Бо мы прытрымліваемся Хрыстовай навукі, а Ён і Яго навука была і будзе адкінутай светам. Навука Езуса асвячае, таму трэба яднацца вакол Езуса і Яго навукі. Апосталы жыццём пацвердзілі навуку Езуса. Цяпер наш час.

*– Ці будую еднасць Касцёла?*

*– Ці не руйную аўтарытэт Касцёла плёткамі, абгаворамі, сваркамі, падазрэннем?*

*– Ці ўмею абараняць святасць Касцёла?*

*– Ці ўмею з любоўю вырашаць праблемы сваёй супольнасці?*

*– Ці разумею, што еднасць – гэта частка любові?*

*– Ці вывучаю разам з Касцёлам у сваёй супольнасці навуку Хрыста?*

*– Ці будую ў еднасці са сваімі братамі Божае Валадарства?*

*– Ці клапачуся, каб мая супольнасць трывала ў сапраўднай навуцы Хрыста, якую перадае Касцёл?*

*– Ці памятаю, што мы, верныя навуцы Хрыста, з'яўляемся Яго сябрамі?*

*Разважанні падрыхтаваў* ***кс. Павел Кнурэк,*** *Віцебск*

*Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!*

# ПАЗНАВАЙКА

*Дарагі сябра! Сёння паразважаем пра чысціню нашых сэрцаў!*

## Запішы правільна

Запішы наступнае выказванне па падказцы. Растлумач, як ты разумееш сэнс атрыманых слоў?

| | А | Б | В |
|---|---|---|---|
| 1 | л | э | ь |
| 2 | ў | і | п |
| 3 | м | а | е |
| 4 | к | ч | ё |
| 5 | ы | о | ц |
| 6 | н | с | р |
| 7 | ш | т | дж |

Б7Б5А1В1А4Б2 А2
Б4А5Б6Б7А5А3
Б6Б1В6В5А5
А6Б3В6Б3В7Б3В3В5В5Б3
А2Б6В4 Б6Б3А3Б3В3
А1В3В2А7Б3В3

______________________________
______________________________
______________________________
______________________________

## Што ўпрыгожвае сэрца?

Чыстае сэрца – гэта прыгожае сэрца! Перад табою злева-га боку змешчана шмат розных упрыгожванняў, але ніводнае з іх па-сапраўднаму не ўпрыгожыць сэрца чалавека. Твая задача добра падумаць і напісаць справа, што з'яўляецца ўпрыгожваннем для нашага сэрца!




## Што дапамагае падтрымліваць парадак у сэрцы?



Калі ў нашым доме і пакоі парадак і ўсё знаходзіцца на сваім месцы, калі там чыста, то ў такім доме прыемна жыць. Але апрача парадку вакол сябе вельмі важна мець таксама парадак у сваім сэрцы!



А што нам штодзённа дапамагае падтрымліваць парадак у сэрцы, што падказвае, дзе дабро, а дзе зло, даведаешся, калі правільна выканаеш наступнае заданне




## Намалюй сэрца, дзе прабывае Бог

Першае сэрца вельмі бруднае і Езусу непрыемна прабываць у ім. Другое сэрца пакуль пустое. Таму табе неабходна намаляваць такое чыстае сэрца, у якім прабывае Бог.






## Малітва

**Памаліся разам з бацькамі словамі наступнай малітвы:**

"Дарагі Божа! Праслаўляю Цябе і прагну заўсёды быць чыстым. Прашу, выкінь усё дрэннае з майго сэрца. Дапамажы мне, Езу, падтрымліваць сэрца ў чысціні і напаўняй яго сваёй бязмежнай ласкай. Амэн".

## Святы Мацвей, апостал і евангеліст



Перад тым як стаць апосталам і вучнем Хрыста, Мацвей быў мытнікам - збіраў падаткі. Як гаворыць традыцыя, пасля ўнебаўшэсця Езуса ён вырушыў у Егіпет і Эфіопію, каб абвяшчаць у гэтых краінах Евангелле і аздараўляць людзей. Яго Евангелле лічыцца першым. А вось якія словы Езуса пры чысціню чалавечага сэрца можам прачытаць у Евангеллі паводле Мацвея: "Шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць"!!!

На жаль, дакладна невядома, дзе і як загінуў гэты апостал. Аднак ужо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

